№ 90 (3933)

18 лістапада 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**



ПАЛІТКУХНЯ

## З адзіным ці за байкот?

*Учора прадстаўнікі апазіцыйных партый заявілі, што адзіны кандыдат у прэзідэнты будзе абраны на Кангрэсе дэмакратычных сіл. Але адбудзецца гэта толькі напрыканцы сакавіка 2015 года.*

Пагадненне аб працэдуры вылучэння адзінага кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2015 года 17 лістапада падпісалі пяць апазіцыйных партый і арганізацый. Гэта — Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), рух "За Свабоду", кампанія "Гавары праўду!", Партыя БНФ, аргкамітэт па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя". Пра гэта было абвешчана на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

Як мяркуецца, падрыхтоўка да кангрэса дэмакратычных сіл пачнецца яшчэ сёлета. Калі ў бліжэйшы час да падпісантаў далучацца Аб'яднаная грамадзянская партыя ці Партыя левых "Справядлівы свет", то адзінага кандыдата выберуць на кангрэсе напрыканцы сакавіка 2015-га. У самым дрэнным выпадку кангрэс павінен прайсці ў маі 2015 года.

Адзін з кіраўнікоў кампаніі "Гавары праўду!" Андрэй Дзмітрыеў, праўда, паведаміў, што магчымы і другі сцэнарый — байкот выбараў.

ЗНАЁМЦЕСЯ!

## Новаму міністру ЖКГ 36 гадоў

***Учора Аляксандр Лукашэнка прызначыў Аляксандра Церахава міністрам жыллёва-камунальнай гаспадаркі.***

Як вядома, былы кіраўнік ведамства **Андрэй Шорац** 6 лістапада быў прызначаны старшынёй Мінгарвыканкама.

**Аляксандр Церахаў** стаў самым маладым міністрам Беларусі. Яму ўсяго толькі 36 гадоў. Аднак, як заўважаюць супрацоўнікі міністэрства, сістэму жыллёва-камунальнай гаспадаркі ён ведае добра, як кажуць, знутры. *"Тры гады Аляксандр Аляксандравіч працаваў першым намеснікам міністра,* — распавялі ў міністэрстве. — *А дагэтуль працаваў у Гомелі начальнікам упраўлення ЖКГ Гомельскага аблвыканкама.... Павіншавалі яго, пажадалі плённай працы. Настрой у Аляксандра Аляксандравіча добры".*

Дарэчы, знаходзячыся на пасадзе першага намесніка міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Аляксандр Церахаў прапаноўваў шэраг змяненняў у сістэме кіравання ЖКГ. Напрыклад, выказваўся наконт таго, што ключавым звяном сістэмы павінен стаць адзіны дзяржаўны заказчык, які будзе адказваць за тэхнічнае абслугоўванне, бягучы рамонт жылога фонду, уборку месцаў агульнага карыстання, дыспетчарскую службу на выпадак аварыі, аказанне бытавых паслуг. Цяпер, напэўна, свае прапановы ён зможа ажыццявіць...

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

## Першае распараджэнне Шораца

*Новы кіраўнік Мінска **Андрэй Шорац** распарадзіўся правесці інвентарызацыю жылых дамоў, якія будуюцца ў сталіцы. Адпаведнае даручэнне ён даў учора на аператыўнай нарадзе ў Мінгарвыканкаме.*

— *Мы павінны ведаць, на якой стадыі будаўніцтва знаходзіцца той ці іншы аб'ект, каб кантраляваць сітуацыю,* — адзначыў А.Шорац.

Акрамя таго, Шорац заўважыў, што варта аптымізаваць схему падрыхтоўкі і ўзгаднення неабходнай дакументацыі па дамах, якія ўводзяцца ў эксплуатацыю, каб пачаць іх засяленне ў пазначаныя ўрадам тэрміны.

ГОРЯЧАЯ ТОЧКА

## Петр Порошенко: Украина хочет мира, но готова к самым худшим сценариям

Украина готова к самым худшим сценариям, в том числе и к войне с Россией, заявил украинский президент **Петр Порошенко** в интервью германскому изданию Bild.

Киев не хочет конфликта, но готов к "тотальной войне". Украинская армия сейчас в гораздо лучшем состоянии, чем пять месяцев назад, а саму Украину поддерживает весь мир, отметил Порошенко.

Украинский лидер обвинил Россию в нарушении Минских договоренностей по урегулированию ситуации в Донбассе. По словам Порошенко, Киев выполнял все пункты мирного договора, готов был идти на компромиссы и по-прежнему убежден, что у конфликта нет военного решения. *"Мы не хотим войны, мы хотим мира и боремся за европейские ценности. Но Россия не придерживается никаких соглашений",* — добавил президент Украины.

## Эксперты: Донбассу угрожает гуманитарная и экономическая катастрофа

Немецкий журнал Der Spiegel обнародовал отрывки из конфиденциального доклада, подготовленного аналитиками для администрации российского президента. *"Более половины работоспособного населения потеряло работу и доходы. Донбассу угрожает гуманитарная и экономическая катастрофа",* — цитирует доклад Der Spiegel.

Согласно документу, промышленное производство в Донецкой области по сравнению с предыдущим годом снизилось на 59 процентов, в Луганской — на 85. Остановлены 69 из 93 угольных шахт, 40 тысяч малых предприятий обанкротились, около полутора миллионов беженцев покинули свои жилища. На восстановление регионов требуются многомиллиардные субсидии в евро.

АКТУАЛІІ

*Святлана КАЛІНКІНА*

## Дрэнны тон

**Паміж Расіяй і Польшчай разгарэўся жорсткі дыпламатычны канфлікт. Польшча выслала некалькі расійскіх дыпламатаў, Расія — польскіх. І на гэтым фоне ў МЗС Расіі да намесніка міністра Грыгорыя Карасіна быў выкліканы беларускі пасол у Маскве Ігар Петрушэнка.**

**Пра што гаварылі, грамадскасці не вядома. Згодна з кароткім пратакольным паведамленнем — пра падрыхтоўку сумеснага пасяджэння калегій МЗС абедзвюх краін, а таксама пра "шэраг міжнародных сюжэтаў, якія ўяўляюць узаемную цікавасць".**

**Што гэта за сюжэты?.. Можна зламаць галаву ў здагадках. Але...**

**Літаральна праз дзень Аляксандр Лукашэнка выклікаў да сябе старшыню КДБ Валерыя Вакульчыка і запатрабаваў інфармацыю аб сітуацыі ў Гродзенскай вобласці. *"Я хацеў бы, каб вы мне далажылі пазіцыю — пісьмова, невялікай даведкай, на падставе мясцовых матэрыялаў, якая там сітуацыя. Яна мяне не проста насцярожвае — я памятаю, што было раней. Там жа адзіны выпадак быў у краіне, калі губернатара застрэлілі. І ясна, якія гэта былі праявы. Ды і ведаем, што памкненні на Гродзенскую вобласць у асобных дзяржаў занадта празмерныя. Таму мяне хвалюе сітуацыя там",* — сказаў Лукашэнка.**

**Застрэлены губернатар Дзмітрый Арціменя і да сёння не расследаваная крымінальная справа аб гэтым забойстве не хвалявалі Аляксандра Лукашэнку дваццаць гадоў. Так што, трэба думаць, на самай справе трывожная інфармацыя, пра якую пісьмова павінен быў дакласці старшыня КДБ, — інфармацыя "пра памкненні" на Гродзенскую вобласць асобных дзяржаў.**

**Яшчэ праз дзень на нарадзе ў Гродне Аляксандр Лукашэнка ўжо развіваў гэтую тэму: *"Я падлашчвацца ні пад каго не маю намеру. Заляцанні прыводзяць да развалу, распаду дзяржавы. Як толькі мы пачнём дзяліць нашу зямлю па нацыянальнай прыкмеце, вы ведаеце, як будзе, — прыклад на поўдні... Не мне вам тлумачыць, як жывуць у Польшчы. Гэта вы ведаеце лепш, і, калі вы яшчэ тут да гэтага часу жывяце, значыць, вы зрабілі правільную выснову. Там добра, дзе нас няма".***

**Пасля гэтага Аляксандр Лукашэнка зноў паўтарыў раней не аднойчы выказаную думку, што *"Польшча ды і іншыя краіны пільна прыглядаюцца да Беларусі, асабліва да Гродзенскай вобласці, адной з жамчужын рэспублікі".***

**Пра польскія планы "адцяпаць" частку беларускай тэрыторыі Аляксандр Лукашэнка гаварыў не раз. Пры гэтым ніякіх канкрэтных доказаў каварных намераў ніколі не прыводзіў. Адначасова Расія ўжо не проста агучыла ідэю "рускага свету", але і паказала на прыкладзе Крыма і Данбаса, якімі метадамі будзе рэалізоўваць сваю дактрыну. Але тут беларускі кіраўнік нібы глухі і сляпы. Хаця расійскія сцяжкі ўжо раздаюць на вуліцах беларускіх гарадоў, у прэсу прасочваецца інфармацыя пра тайнае прыняцце расійскага грамадзянства нашымі адказнымі асобамі, ну а ўжо як варожа ўспрымаюць прыхільнікі "рускага свету" любыя праявы беларускасці — прыкладаў незлічона.**

**Тым часам міжнародныя эксперты па праблемах геапалітыкі не бачаць ніякіх прычын, па якіх Польшчы спатрэбіліся б заходнія беларускія тэрыторыі. Тым больш што ў савецкія часы этнічных палякаў тут істотна "разбавілі" прадстаўнікамі іншых нацый. А галоўнае — эксперты пакуль не бачаць у Польшчы для такіх прэтэнзій ні ваеннага, ні эканамічнага, ні ідэалагічнага патэнцыялу.**

**А вось што тычыцца Расіі, то сітуацыя прама адваротная. Амерыканскі аналітык Джордж Фрыдман у кнізе "Наступныя сто гадоў", у якой зроблены прагноз на XXI стагоддзе, спрагназаваў і спробу Расіі вярнуць кантроль над Украінай (гэта мы зараз назіраем), і спробу паглынуць Беларусь (ціхае паглынанне эканамічнымі метадамі апошнім часам актывізавалася і ў палітычна-ідэалагічнай сферы), а потым — канфлікт з Польшчай і краінамі Балтыі. Пакуль прагнозы Фрыдмана збываюцца, таму ўчытаемся ўважліва:**

***"Новае паглынанне Беларусі і Украіны расійскай сферай уплыву стане фактам у наступныя пяць гадоў. Калі гэта адбудзецца, Расія вернецца да межаў з Еўропай, якія прыкладна адпавядаюць тым, якія існавалі ў перыяд паміж дзвюма сусветнымі войнамі... Расія можа існаваць больш-менш спакойна пры ўмове, што Балтыйскі рэгіён нейтральны. Але жыць ва ўмовах, калі страны Балтыі з'яўляюцца членамі НАТА і блізкія з амерыканцамі, — гэта сур'ёзная рызыка, ісці на якую рускім не хочацца. Наступным ходам Расіі стане пагадненне з Беларуссю аб стварэнні інтэграванай сістэмы абароны. Беларусь і Расія злучаны вельмі даўно, так што такі саюз стане натуральнай рэстаўрацыяй мінулага. Гэты саюз прывядзе расійскія войскі на межы дзяржаў Балтыі і на мяжу з Польшчай — і гэта распаліць поўнамаштабную і вострую канфрантацыю".***

**Прычым адразу адзначу, што пры гэтым ваенны сцэнарый экспертамі не выключаецца.**

**Такім чынам, укідамі інфармацыі пра "польскія памкненні" на заходнія беларускія землі на самай справе спецслужбы (расійскія ці беларускія альбо сумеснымі намаганнямі) толькі паскараюць канфрантацыйнае развіццё падзей у нашым рэгіёне. Бо калі б Мінск сябраваў з Варшавай, калі б Беларусь была інтэгравана эканомікай з Польшчай і Літвой, то Расія проста не мела б пляцоўкі для сваіх агрэсіўных памкненняў. А так ужо і расійская авіябаза з'явілася ў Гродзенскай вобласці, на падыходзе другая — у Бабруйску. То бок, калі вайна, то іх і будуць бамбіць. Нашу зямлю будуць бамбіць — не Маскву і нават не Смаленск! Будуць бамбіць Беларусь!**

**Так што калі не спыніцца гэтая антыпольская рыторыка кіраўніка Беларусі, калі не спыняцца гэтыя антыпольскія праявы расійскіх фантомных боляў у беларускіх галовах, то да дабра нас гэта не давядзе. Вельмі ўважліва глядзіце тэлесюжэты з Данбаса... І помніце: год таму гэтыя людзі, таксама як і мы, падумаць не маглі, што прарасійскія настроі давядуць іх да крывавай вайны.**

ЗАКУЛІССЕ

## Вольга Алейнікава і Алег Румо недабралі галасоў

***На мінулым тыдні ў Беларусі прайшлі выбары акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў Нацыянальнай акадэміі навук. Без сенсацый не абышлося. Вучоныя званні акадэміка і члена-карэспандэнта не атрымалі вядомыя ў Беларусі ўрачы, кіраўнікі вядучых РНПЦ краіны — анкагематолаг Вольга Алейнікава і трансплантолаг Алег Румо.***

Выбары акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў у навуковым асяроддзі — падзея. Мець гэтае вучонае званне даволі прэстыжна і сёння, нягледзячы на агульную сітуацыю з навукай у краіне. Згодна з указам А.Лукашэнкі, у Нацыянальнай акадэміі навук не можа быць больш за 100 акадэмікаў і 145 членаў-карэспандэнтаў, таму выбары праводзяцца толькі на існуючыя вакансіі. Галасаванне павінна праходзіць раз у 2—3 гады, але склад Акадэміі навук апошні раз абнаўляўся ажно 5 гадоў таму, у 2009 годзе. Гэта, безумоўна, дадавала інтрыгі, конкурс на некаторыя вакансіі складаў 5—7 чалавек на месца. На 24 вакансіі акадэмікаў і 39 вакансій членаў-карэспандэнтаў прэтэндавалі 40 і 118 кандыдатаў адпаведна.

Правілы "прыёму" ў акадэмікі і членкоры строгія. Галоўная ўмова для кандыдатаў — зарэкамендаваць сябе значнымі навуковымі і практычнымі дасягненнямі, мець міжнародны аўтарытэт і сфарміраваць навуковую школу. Спачатку кандыдаты праходзяць адбор у сваіх галіновых аддзяленнях навук (медыкі — у аддзяленні медыцынскіх навук, аграрнікі — аграрных, хімікі — хімічных і г.д.), а потым новых акадэмікаў і членкораў выбіраюць тайным галасаваннем на Агульным сходзе Акадэміі навук. 13—14 лістапада на такім сходзе і былі вызначаны імёны новых акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў.

Але сярод іх няма вядомага ў краіне медыка, заслугі якога ў навуцы, здавалася б, бездакорныя — дырэктара РНПЦ дзіцячай анкалогіі, гематалогіі і імуналогіі **Вольгі Алейнікавай**. Яна вылучалася на званне акадэміка, але не атрымала 2/3 галасоў пры тайным галасаванні, неабходных для таго, каб быць залічанай у сапраўдныя члены Акадэміі. Яшчэ адна сенсацыя здарылася напярэдадні выніковага галасавання, і яна тычыцца дырэктара РНПЦ трансплантацыі органаў і тканак **Алега Румо**, які падаваў дакументы на атрыманне звання члена-карэспандэнта.

**Вольга Алейнікава, дырэктар РНПЦ дзіцячай анкалогіі, гематалогіі і імуналогіі з дня яго адкрыцця...**

Гэтая акалічнасць выклікала нямала шуму ў медыцынскім навуковым асяроддзі. Вольга Алейнікава — бясспрэчны аўтарытэт у медыцыне, яе ведаюць далёка за межамі Беларусі. У дзіцячы анкацэнтр, якім Алейнікава кіруе ўжо 18 гадоў, ратаваць ад раку бацькі вязуць дзетак з многіх краін свету. 5 гадоў таму Алейнікава была абрана членам-карэспандэнтам НАН Беларусі. А зараз акадэмікі чамусьці вырашылі, што Вольга Вітальеўна яшчэ не заслугоўвае высокага звання акадэміка. А можа, тайнае галасаванне — гэта свайго роду закулісныя гульні, і не заўсёды навуковых дасягненняў і поспехаў дастаткова для атрымання звання акадэміка? Праўда, нельга не адзначыць, што на першай стадыі выбараў сапернікамі Алейнікавай былі не менш вядомыя і аўтарытэтныя анколагі краіны — былы дырэктар РНПЦ анкалогіі и медыцынскай радыялогіі, а зараз намеснік акадэміка-сакратара Аддзялення медыцынскіх навук НАН Беларусі **Іосіф Залуцкі**, а таксама вядомы анкаэндакрынолаг **Юрый Дзямідчык**, дзякуючы якому тысячы беларусаў з дыягназам "рак шчытападобнай залозы" засталіся жывыя. Іх Алейнікава перамагла, а вось на тайным галасаванні на Агульным сходзе Акадэміі навук не набрала дастатковай колькасці галасоў, каб стаць акадэмікам. Адзін нюанс: на званне акадэміка сёлета прэтэндавалі тры жанчыны-вучоныя (Вольга Алейнікава, дырэктар Інстытута мікрабіялогіі НАН Беларусі **Эмілія Каламіец** і вядучы вучоны ў галіне харчовай прамысловасці **Зоя Васіленка**), і ніводную Агульны сход не абраў акадэмікам. Так што па-ранейшаму у Беларусі застаецца толькі адна жанчына-акадэмік — генетык **Любоў Хатылёва**, якая ў мінулым годзе адзначыла сваё 85-годдзе. Дарэчы, не трапілі сёлета ў акадэмікі і 5 членкораў-мужчын.

Што тычыцца акадэмікаў ад медыцыны, то на мінулым тыдні іх шэрагі папоўнілі вядомыя вучоныя і практыкуючыя ўрачы — кардыяхірург **Юрый Астроўскі** і дзіцячы нефролаг **Аляксандр Сукала**.

Безумоўна, нечаканым нават для людзей, далёкіх ад медыцыны, было рашэнне вучоных адносна Алега Румо. Імя гэтага доктара ў апошні час не сыходзіць са старонак газет. Яго часта можна ўбачыць на экране тэлевізара. Кар'ера Алега Румо вельмі паспяховая. Ён першым у Беларусі выканаў аперацыю па перасадцы печані, затым перасадзіў частку печані дзіцяці і правёў яшчэ не адну ўнікальную аперацыю. У 40 гадоў Алег Румо ўзначаліў РНПЦ трансплантацыі органаў і тканак, ён мае званне "Заслужаны ўрач Рэспублікі Беларусь". Але, дарэчы, толькі два гады таму абараніў доктарскую дысертацыю.

Пра Алега Румо нярэдка кажуць як пра талент, "падмацаваны" асаблівым стаўленнем прэзідэнта. Трансплантолаг Румо — адзіны ўрач, якому выдзелены ўчастак у элітных Драздах-2, дзе будуюцца набліжаныя да прэзідэнта чыноўнікі, бізнесмены, спартсмены. Падчас выбарчай кампаніі 2010 года Алег Румо быў даверанай асобай кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі. У сакавіку гэтага года Алег Румо ўвайшоў у лік вядучых навукоўцаў краіны, запрошаных на нараду да прэзідэнта па пытанні перспектыў развіцця навукі, і быў сярод нешматлікіх выступоўцаў на гэтай нарадзе.

Але, магчыма, гэтых заслуг аказалася недастаткова, каб быць абраным у члены-карэспандэнты Акадэміі навук. Чамусьці яшчэ падчас вылучэння кандыдатаў у галіновых аддзяленнях калегі-медыкі прагаласавалі супраць кандыдатуры Алега Румо, хаця на вакантнае месца ён быў адзіным прэтэндэнтам, і таму на галасаванне Агульнага сходу Акадэміі яго кандыдатура нават і не выстаўлялася...

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

**У сакавіку 2010 года быў адкрыты РНПЦ трансплантацыі органаў і тканак, які ўзначаліў Алег Румо (на фота злева), у верасні цэнтр наведаў Аляксандр Лукашэнка.**



ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Родить здорового малыша

*Статистика свидетельствует: в Беларуси увеличилось число супружеских пар, имеющих проблемы с зачатием. Причем медики отмечают значительный рост мужского бесплодия. Если 30 лет назад на 70—80% случаев женского бесплодия приходилось 20—30% мужского, то теперь это соотношение составляет 60% на 40%.*

*Что такое мужское бесплодие? Как оно лечится? Когда мужчине надо срочно обратиться к урологу? Можно ли предупредить бесплодие? Зависит ли здоровье малыша от здоровья отца? Какой возраст родителей оптимальный для зачатия?*

*На эти и другие вопросы в ходе "прямой линии" ответит уролог медицинского центра "ЛОДЭ" **Валерий Михайлович КОНДРАТЕНКО**. Звоните во вторник 25 ноября с 16.00 до 17.30 по телефону **328-68-41**. Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте nvonlineinfo@gmail.com с пометкой "Прямая линия".*

ПАД ГРАДУСАМ

## Дождж, снег і галалёд

На гэтым тыдні ў Беларусь прыйдзе зіма. Краіна апынецца ва ўладзе шырокага антыцыклону, з-за арктычнага паветра тэмпература пачне паступова зніжацца.

Сёння яшчэ будзе пераважна без ападкаў, толькі па паўднёвым захадзе месцамі невялікія ападкі (у асноўным дождж), слабы галалёд. У **сераду і чацвер** тэмпература працягне зніжацца. Уначы -5...+2°С, па паўночным усходзе пры праясненнях да -7°С, максімальная тэмпература днём складзе -2...+4°С. Па паўднёва-заходняй палове краіны ападкі (дождж, мокры снег), слабы галалёд.

У **пятніцу, 21 лістапада,** у заходніх раёнах ападкі (мокры снег, дождж), слабы галалёд. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -5...+2°С, па ўсходзе пры праясненнях -6...-8°С, максімальная днём -2...+ 3°С.

У выхадныя дні чакаецца далейшае паніжэнне тэмпературы, і на фоне павышанага ціску будзе праходзіць малаактыўны атмасферны фронт, які прынясе месцамі кароткачасовы снег, мокры снег, слабы галалёд. Месцамі па краіне сфарміруецца ўжо снежны кілім.

*Просім прабачэння за недакладнасць, дапушчаную ў матэрыяле "У Мінску з'явяцца мікрараёны "Новая Баравая" і "Ноцінгем" ("НВ" за 14.11.2014 г.). **Мікалай Бутрым** з'ўляецца першым намеснікам старшыні **Камітэта будаўніцтва і інвестыцый** Мінгарвыканкама.*

ОФИЦИАЛЬНО

## Цена «квадрата» — 6,6 миллиона рублей

В Беларуси установлен единый предельный норматив стоимости 1 кв. метра общей площади жилого помещения для льготного кредитования в 2015 году в размере 6,6 млн рублей. Это предусмотрено Постановлением Совета министров от 8 ноября 2014 года №1055, опубликованным вчера на Национальном правовом интернет-портале.

Также документом установлен предельный показатель стоимости 1 кв. метра общей площади жилья в размере, не превышающем 9,4 млн рублей, для выдачи льготного кредита ОАО "Белагропромбанк" на строительство (реконструкцию) жилых домов (квартир) в сельскохозяйственных организациях.

## Ці пачуецца ў хлявах рохканне?

У Беларусі скарацілі буферную зону вакол свінакомплексаў. Гэта прадугледжвае пастанова Саўміна №1057 ад 10 лістапада 2014 года, якая днямі набыла моц.

Так, радыус буфернай зоны вакол свінагадоўчых фермаў і комплексаў да 12 тысяч галоў складзе 0,5 км, для большых — 2 кіламетры. Па-за гэтым радыусам можна трымаць свіней на асабістых падворках, у фермерскіх гаспадарках і гаспадарках індывідуальных прадпрымальнікаў.

Раней буферная зона дзейнічала ў радыусе не менш за 5 км ад свінагадоўчых фермаў і комплексаў. Гэтая мяжа была ўведзена пасля ўспышкі афрыканскай чумы свіней у 2013 годзе. І ў гэтай зоне было знішчана ўсё прыватнае свіное пагалоўе.

Перажыўшы леташнюю кампанію, ці не пабаяцца людзі зараз заводзіць свіней?

СУД

## Беленькага аштрафавалі на 3 мільёны

Намеснік старшыні КХП—БНФ **Юрась Беленькі** прызнаны судом Першамайскага раёна Мінска вінаватым у парушэнні парадку правядзення масавых мерапрыемстваў — 2 лістапада падчас шэсця ў Курапаты "Дзяды" і 9 лістапада на жалобным мітынгу ў Лошыцы.

Вяла працэс суддзя **Анастасія Папко.**

Паводле міліцэйскага пратакола, Юрась Беленькі не забяспечыў ахову парадку і медыцынскае абслугоўванне падчас акцыі "Дзяды". Юрась Беленькі з прад'яўленымі яму абвінавачаннямі не пагадзіўся. Паводле яго слоў, у тым, як прайшлі памінальныя акцыі, няма і намёку на тое, што да іх былі нейкія прэтэнзіі з боку ўлады.

Тым не менш суддзя Анастасія Папко абвясціла рашэнне: штраф памерам у 20 базавых велічынь (тры мільёны рублёў).

СІТУАЦЫЯ

## Халодны душ для амаль чатырох тысяч чалавек

Амаль чатыры тысячы работнікаў шасці прадпрыемстваў хімічнай прамысловасці, атрымаўшы разліковыя лісткі за верасень, адчулі шок. Заробак не проста знізіўся, а знізіўся вельмі істотна. Паводле дадзеных афіцыйнага Белхімпрафсаюза, у сярэднім кожны працуючы за месяц страціў больш за 800 тысяч рублёў.

Такім толькі па адной галіне аказаўся вынік дзеяння пастановы Савета міністраў №744 "Аб аплаце працы работнікаў" — дакумента, які стаў халодным душам для многіх працоўных калектываў.

Нагадаем, што гэтая пастанова тычылася дзяржаўных прадпрыемстваў і юрыдычных асоб, у якіх доля дзяржавы складае больш за 50 працэнтаў, — іншымі словамі, амаль усіх буйных прадпрыемстваў краіны.

Згодна з дакументам, цяпер заробкі кожнага рабочага залежаць ад аб'ёму выручкі за рэалізаваную прадукцыю. Павялічваць намінальна налічаную сярэднямесячную заработную плату яны могуць толькі ў выпадку, калі ёсць рост прадукцыйнасці працы. У выніку людзей паўсюдна пераводзяць на здзельную аплату працы, прычым за адзін і той жа выкананы аб'ём у адным месяцы можна атрымаць большы заробак, у іншым — меншы.

*"Указанай пастановай уводзіцца так званая "салідарная адказнасць" усяго працоўнага калектыву, пры якой працаўнік, які добрасумленна выконваў на працягу месяца свае працоўныя абавязкі, вырабляў прадукцыю належнай якасці, дасягнуў асабістай прадукцыйнасці працы вышэй, чым у адпаведным перыядзе мінулага года, усё роўна робіцца закладнікам знешніх фактараў, і зарплата яму будзе паменшана",* — тлумачаць спецыялісты. І нават афіцыйныя прафсаюзы патрабуюць тэрмінова спыніць дзеянне пастановы.

Адметнасць сітуацыі яшчэ і ў тым, што нават паводле беларускага закона заробак работніка Іванова не можа залежаць ад таго, як спрацаваў работнік Пупкін. Іншымі словамі, уведзеная "салідарная адказнасць" — гэта, мякка кажучы, занадта вольнае трактаванне ўрадам Канстытуцыі краіны і працоўнага заканадаўства.

Ну і трэці важны момант. І прэзідэнт, і ўрад, і Усебеларускі народны сход абяцалі народу, што жыць будзе лепш, а не горш. Хто цяпер адкажа за тое, што ўмовы аплаты працы сталі горшымі і людзі проста не могуць планаваць, якія даходы будуць мець заўтра, паслязаўтра, праз месяц, праз паўгода?

Аднак, з іншага боку, паколькі народ маўчыць, то і ўлады, не чырванеючы, "клапоцяцца" пра лёгкасць нашых кашалькоў.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

### ДАРЭЧЫ

Пастанова Савета міністраў №569 аб новым парадку аплаты бальнічных лісткоў у свой час таксама была названа "дакументам, які спрыяе росту сацыяльнай напружанасці". Нават афіцыйны беларускі прафсаюз двойчы выступаў з заявамі, у якіх патрабаваў адмяніць гэты дакумент. Але пакуль прафсаюзы выконваюць ролю інструмента дзяржаўнага кантролю над грамадствам, далей заяў і размоў справа не ідзе.

Нядаўна віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч прысутнічаў на Пленуме Савета ФПБ. Старшыня Гродзенскага абласнога аб'яднання прафсаюзаў **Рамуальд Юроўскі** вярнуўся да праблемы аплаты бюлетэняў і прывёў канкрэтныя лічбы. Так, паводле яго слоў, кандытар камбіната школьнага харчавання ў Гродне, сыходзячы ў дэкрэт, да прыняцця пастановы №569 павінна была атрымаць больш за 19 мільёнаў рублёў. Па новай пастанове ёй выплацілі толькі 2 мільёны 347 тысяч. І гэта не адзінкавы прыклад, прычым ад рашэння ўрада аб новым парадку аплаты бюлетэняў найбольш пацярпелі маладыя спецыялісты і цяжарныя жанчыны, якія не прапрацавалі паўгода. Пятра Пракаповіча прыклад уразіў, але не больш за тое. Па крайняй меры дабівацца адмены пастановы ён не пабяцаў. Трэба разумець, цяжарныя жанчыны — гэта ўжо не тая праблема, якая актуальна для Героя Беларусі Пятра Пракаповіча.

## Падзенне

У ААТ "Цветотрон" (Брэст) у верасні недалічыліся 8% ад жнівеньскага заробку, прычым людзі атрымалі ў сярэднім толькі па 3 мільёны 399 тысяч рублёў.

На 14% знізілася зарплата і ў ААТ "Гідрапрывад" (Хойнікі), дзе рабочым выплацілі ў сярэднім 3 мільёны 626 тысяч рублёў.

На ААТ "Дзяржынскі эксперыментальна-механічны завод" вераснёўскія заробкі ў параўнанні са жнівеньскімі знізіліся на 10% і склалі 6 мільёнаў 472 тысячы рублёў.

Падзенне ў вераснёўскай зарплаце ў параўнанні са жніўнем на 4—5% адчулі таксама ААТ "БелТАПАЗ", "Інтэграл", баранавіцкі ААТ "Гандальмаш", Аршанскі інструментальны завод...

СКАЗАНО!

*Сергей КАЛЯКИН, председатель партии «Справедливый мир»:*



*"Существующая система краткосрочных трудовых контрактов носит рабский характер, угнетает и унижает трудящихся".*

ЭТО БЫЛО...





# Михаил Чигирь — Александру Лукашенко: «Считаю необходимым заявить о моем осуждении проводимой Вами внутренней и внешней политики...»

18 ноября 1996 года...

До печально известного референдума, на который были вынесены вопросы с явными нарушениями законодательства, оставалось несколько дней.

На первой полосе "Народной Воли" печатается заявление премьер-министра М.Н.Чигиря президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко *(см. справа).*

На такой шаг Михаил Николаевич пошел не потому, что кто-то на него оказал "дикий нажим", как усиленно комментировалось в официальных СМИ, а потому, что он был категорически не согласен с проводимой А.Лукашенко внутренней и внешней политикой.

Как порядочный человек, он не желал разделять с А.Лукашенко ответственность за последствия сомнительного референдума, исключающего свободное волеизъявление народа.

Такой принципиальный поступок дорого стоил М.Чигирю. В 1999 году в отношении него — к тому времени уже одного из лидеров оппозиции — было возбуждено уголовное дело. Он провел за решеткой восемь месяцев. Из заключения Михаил Чигирь обратился с Открытым письмом к А.Лукашенко, которое было опубликовано в "Народной Воле" 12 августа 1999 года и которое, как и заявление об отставке, воспроизводится в сегодняшнем номере газеты.

А обвинили Михаила Николаевича Чигиря в том, что в 1991 году, будучи главой "Белагропромбанка", он якобы допустил служебную халатность, изза которой банк потерял миллион долларов. Суд обязал Михаила Чигиря эти деньги вернуть.

Судебному преследованию подвергся не только Михаил Чигирь, но и его семья. Два года лишения свободы с отсрочкой исполнения приговора на один год получила его жена Юлия Чигирь за "сопротивление сотруднику милиции". Старший сын Алексей в августе 2000 года уехал из Беларуси в Германию после того, как обнаружил в багажнике своего автомобиля не принадлежащие ему боеприпасы. Младшего, Александра, в 2001 году арестовали. В марте 2002-го его приговорили к 7 годам лишения свободы, признав виновным в пособничестве совершению серии краж микроавтобусов "Форд-Транзит".

*"Что касается судебного решения в отношении меня...* — вздыхает Михаил Николаевич. — *Скажите, ну где я, пенсионер, могу взять миллион долларов?! Удерживают из пенсии 20 процентов..."*

Дорогой ценой оплачено мужество! Но в глазах миллионов белорусов Вы, Михаил Николаевич, были и останетесь настоящим ГРАЖДАНИНОМ, достойным сыном Отечества.

**Президенту Республики Беларусь**
**А.Г.Лукашенко**
**Премьер-министра Республики Беларусь**
**М.Н.Чигиря**

### Заявление

*Считаю необходимым заявить о моем осуждении проводимой Вами внутренней и внешней политики, а также несогласии с отходом от курса экономических реформ.*

*Категорически возражаю против проведения 24 ноября референдума, так как при его подготовке допущены многочисленные грубые нарушения законодательства, исключающие свободное волеизъявление народа.*

*Призываю во имя стабилизации обстановки в республике отменить намеченный референдум. В противном случае прошу принять мою отставку.*

**Премьер-министр Республики Беларусь М.Чигирь**

*18.11.96,*
*9.30*

# Открытое письмо гр-ну А.Лукашенко

Четыре месяца прошло с того дня, когда по Вашему, Александр Григорьевич, указанию я был изолирован от общества. Еще 2 апреля в прокуратуре мне показали "документ", послуживший основанием для моего ареста: записку Шеймана с Вашей резолюцией. Все эти месяцы Вы пытались сделать вид, что не знаете, за что я арестован. Дескать, вор — и что тут говорить. Неделю назад я получил сообщение, что Ваша светлость готова "принять" от меня "покаянное" письмо. Мне предлагалось объяснить народу причину своего "греховного" поведения весной 1999 года накануне ареста и дать клятву уйти из политической жизни. Я хотел просто оставить Ваше предложение без внимания. Но дальнейшие события не позволяют мне промолчать.

Вот уже неделю подчиненные Вам СМИ вещают устами генпрокурора Божелко, министра внутренних дел Сивакова о неких 12 уголовных делах, возбужденных в отношении меня за хищение то ли 7,5, то ли 10 миллионов долларов. Если следственные органы закончили расследование, то почему я до сих пор не ознакомлен с предъявляемыми мне обвинениями и даже не представляю, что мне инкриминируется? Божелко и Сиваков, должно быть, знают и помнят, что по делам о клевете и оскорблении личности нет сроков исковой давности. Поэтому их "обвинения" в мой адрес звучат неубедительно и создается впечатление, что в момент "откровений" у них за спиной стоите Вы.

Вы, наверно, и сами чувствуете это. Не потому ли сами вызвались комментировать мое "дело"? Похоже, оно не дает Вам жить спокойно. Вы, скорее всего, и сами сомневаетесь в том, что россказни, которые несутся из Ваших уст и уст Ваших соучастников, кто-то может принять за правду. Еще Геббельс говорил, что ложь, чтобы в нее поверили, должна быть чудовищной. Эту теорию Вы, похоже, хорошо усвоили.

"Не лги", — учила меня мать. "Не лги", — говорили учителя. Всю жизнь я следовал этой христианской заповеди, благодаря чему обрел семью, друзей, тысячи сторонников.

Я не собираюсь ни перед кем оправдываться. Я жил по совести и по Божьему закону. Я знаю, что мой арест, моя изоляция от общества — преступление, за которое придется ответить Вам и Вашим подельникам. Я требую предъявления мне обоснованных разъяснений: за что я помещен в изолятор, когда и какие преследуемые законом действия я совершил?

Вы предлагаете вернуть деньги "на бочку" и быть свободным. Напомню, я никогда в Ваш "общак" не записывался и не делил с Вами и с Вашей командой барыши за проданную военную технику, за нефть, зерно и другие вывозимые из страны товары. Я не знаю, где находится Ваша "бочка". Все, что я "украл" без Вас, разрешаю Вам персонально получить с любого счета мира. В любой момент готов оформить доверенность на Вас, Ваших детей, жену или особо доверенных людей. Ведь зная о том, сколько я "украл", Вы, очевидно, знаете и где все это находится. Только человек, утративший чувство реальности, оторвавшийся от жизни соотечественников, имеющий несметное количество денег, может так играть цифрами: украл 1 миллион долларов, 20, 5, 10. Вы можете оценить, что такое 1 миллион долларов для нормального белоруса? Вы знаете оборотный капитал большинства колхозов, предприятий, банков своей республики? Опомнитесь, не позорьтесь и не несите чепуху с экрана.

Вы просили меня покаяться, стать на колени перед Вами, отказаться от занятия политикой. Каюсь, что в день, когда Вы пригласили меня к себе на разговор (20 июля 1994 г.), я поверил Вам. Я не был Вашим сторонником до этого, я не разделял Ваши представления об экономическом развитии государства, я вообще не был с Вами до этого знаком. Я знал, что все Ваши предвыборные обещания невыполнимы. Вы обещали мне, что предоставите возможность самостоятельно принимать экономические решения. В тот день Вы много обещали и на многое соглашались. Просили об одном, чтобы я не делал себе имя и не появлялся без нужды на экране. Я не был политиком, никогда не стремился стать "знаменитым". Ваши предложения вскружили мне голову, и я не оценил, с кем связываю свою судьбу. Согласие работать с Вами было самой страшной ошибкой в моей жизни. Каюсь! Перед Богом, людьми Беларуси, семьей своей. Это благодаря мне Вы сегодня можете напомнить народу, что было до того, как Вы стали президентом. Сегодня Вы, анализируя пятилетний срок своего правления, напомнили народу о пустых полках при Кебиче и о Ваших заслугах по их наполнению. О, как Вы любите присваивать себе чужие заслуги!

Вспоминаю, как терпеливо вместе с В.Леоновым объяснял и доказывал Вам необходимость реформирования сельского хозяйства, изменения ценовой политики. Не мог понять, что Вам нужно не процветающее и независимое крестьянство, а человек-винтик. Вам и Вашему окружению необходим дефицит товаров, множественность курсов валют.

Мне хотелось привлечь в экономику свободные капиталы жителей СНГ. Я планировал открыть оффшорный банк с привлечением высококвалифицированных западных менеджеров. Вы же твердили одно: банкиры — это воры и жулики. Вам, человеку-разрушителю, трудно понять, что жить можно хорошо и не воруя. Вы никогда не принимали решений, исходя из экономической целесообразности. Взять хотя бы программу изготовления и реализации золотых монет Беларуси. Реализация только одной такой монеты позволяла пополнить бюджет на 300 долларов США. Вы остановили программу на том этапе, когда изготовитель понес наибольшие убытки. Вам хотелось показать ему, с кем надо иметь дело в Вашей стране. Вы любили это демонстрировать. Помню, как я приехал после успешных переговоров с фирмой "Philips", подписав контракт о создании совместных предприятий и инвестициях в минский "Горизонт" и Брестский ламповый завод. Я привез в Беларусь подарок, выписанный на мое имя: лампы для уличного освещения на сумму 200 тысяч долларов. Они и сегодня освещают проспект Скорины. Вы не могли пережить, что лампы были подарены мне, а не Вам. Чтобы показать, кто хозяин в доме, Вы запретили реализацию подписанного контракта. И что? Какое сегодня будущее у "Горизонта"? Как живут и сколько зарабатывают работники Брестского лампового?

Я помню, как в 1995 году со мной в Давосе был подписан контракт на безвозмездную поставку оборудования для онкологического центра в Боровлянах стоимостью 7 миллионов долларов США. Этот центр Вы открывали без меня. Не пригласили на открытие и австрийцев, сделавших этот подарок. Зато с удовольствием принимали благодарность за дела, к которым не имели никакого отношения.

Я привез в Беларусь дар правительства Швейцарии и его тогдашнего премьер-министра. Это было оборудование для родильных домов на сумму 6 миллионов долларов. Преподносили его снова Вы, рекламируя собственную добродетель. После моего ухода Вы посетили Давос сами. Перессорились со всеми участниками форума, а в благодарность за ранее оказанную помощь обозвали это мероприятие зверинцем.

Ложь, страх и беззаконие — три кита, на которых держится Ваша власть. На них Вы вошли в президентский дворец. Каюсь, что и я вначале поддался на Ваши такие, казалось, искренние беседы о желании сделать народ Беларуси счастливым.

Я пребывал в заблуждении, подпав под Ваше магическое влияние, веря в искренность Ваших слов. Вы на моих глазах творили беззаконие, а я верил, что Вы не имеете к этому отношения. Вы топтали символы, дорогие сознательным жителям Беларуси, язык, на котором говорили мои родители, избивали людей, обладающих депутатским иммунитетом, а я молчал! Я выполнял свое слово не заниматься политикой, не делать себе имя. Каюсь! Каюсь и прошу прощения у всех, кто пострадал от этого. За членами моей семьи была налажена тайная слежка. И снова я не верил, что Вы имеете к этому отношение. Трижды моих детей избивали дубинками, периодически распускали планомерные слухи об их распущенности и связях с криминальным миром. Дважды в судах звучали заявления от обвиняемых о том, что их вынуждали дать показания против меня и моей семьи.

А я молчал! Каюсь! Каюсь и прошу прощения у своей семьи.

Вы стали президентом, предварительно обвинив человека, исполнявшего функции главы государства, в том, что он недоплатил за ремонт квартиры "смешную" сумму, эквивалентную стоимости ящика гвоздей. Зато, едва успев занять его место, перевели себя на полное государственное обеспечение. За счет государства построили дом матери, отремонтировали дом жены. Я знал, во сколько все это обошлось, и молчал. Мне было дурно при виде сметы на ремонт Вашей резиденции. Я уже не говорю о стоимости Вашего кортежа, самолета, вертолета, парохода...

Я отказывался оплачивать все это, но молчал! Для того чтобы не нужно было согласовывать со мной все эти выплаты, Вы создали собственный фонд, равный государственному бюджету. Бессовестно живя за счет страны, Вы клялись народу в своей любви к нему и готовности делить с ним все тяготы жизни. Заявляли об отказе от 30% своей зарплаты в пользу пенсионеров. Зачем она Вам вообще, если государственные расходы на Вашу персону никем и ничем не ограничиваются?

Сегодня Вы по-прежнему обещаете народу Беларуси улучшение жизни, которое якобы наступит 1 октября. Смею разочаровать Вас и тех, кто Вам еще верит. Ничего не делается Вами и Вашей командой для того, чтобы ситуацию улучшить. Будет плохо. Очень плохо. Не поможет и тот "золотой запас", который Вы якобы создали и который, по Вашим словам, является залогом благополучия детей и внуков. Его стоимость составляет чуть больше 10 миллионов долларов. Это в то время, когда Беларусь задолжала Литве 100 миллионов долларов, России — 400 миллионов долларов, уже после списания предыдущих долгов. Вы планируете создать с Россией единый эмиссионный центр, принимая тем самым на себя часть 150-миллиардного внешнего долга России. Понимаете ли Вы ответственность перед будущими поколениями за непрофессиональные действия Вашего окружения и Вас лично?!

После моего ухода из Вашей команды я пытался жить своей жизнью, не трогая Вас. Я молчал. Я готов был привлечь западные инвестиции и организовать новое производство в Беларуси и просил лишь предоставить гарантии безопасности создаваемого предприятия. Вы отказали. Вы не дали мне возможности жить и работать здесь. Вы вынудили меня уехать из республики.

Политикой заставили меня заниматься Вы. Мой моральный долг — исправлять ошибку, допущенную пять лет назад. Даже если мне придется провести в тюрьме еще семь лет (срок пребывания на посту главы государства, который Вы определили себе), я не буду просить Вас о "помиловании". Через 7 лет Вам будет столько, сколько сегодня мне... Подумайте об этом!

Одновременно спасибо всем тем, кто верит мне сегодня, кто пишет мне, кто поддерживает мою семью, тем, кто пытается облегчить мою судьбу. Буду всегда помнить о Вас, и уверен в том, что рано или поздно правда и добро победят.

**Михаил ЧИГИРЬ.**
*(12 августа 1999 г.)*

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

## О публикации Виталия Гарбузова

Уважаемый Иосиф Павлович, в номере за 4 ноября 2014 года Вашей уважаемой газеты была опубликована статья Виталия Гарбузова, в частности обращающая внимание и на важную проблему, связанную с социальной ответственностью банка.

Как финансовое учреждение, мы функционируем в строго регламентированном правовом поле. Так, при невозврате кредита в соответствии с требованиями законодательства банк обязан произвести действия по взысканию задолженности. Прекратить обязательства кредитополучателей — физических лиц возможно только при их малозначительности. По существующим в Республике Беларусь нормам, которым мы обязаны подчиняться, малозначительной признается сумма долга, не превышающая пяти базовых величин. В связи с этим мы не можем оставлять даже такие непростые случаи без проведения мероприятий по взысканию.

В рассматриваемой ситуации при проведении мероприятий по взысканию долга было выявлено имущество умершего кредитополучателя, которое находится у Марии Михайловны (матери умершего), в связи с чем она считается фактически принявшим наследство наследником и отвечает по долгам наследодателя в пределах стоимости перешедшего к ней наследственного имущества. Не будь этого автомобиля либо откажись Мария Михайловна, как предлагал суд, от наследства в установленном законодательством порядке, не было бы данных судебных разбирательств.

В любом случае ОАО "Приорбанк" не собирается, как это предполагается в статье, удерживать из пенсии Марии Михайловны сумму долга. Целью обращения в суд было урегулирование ситуации с автомобилем умершего (исковые требования банка были уменьшены в ходе судебных разбирательств до стоимости автомобиля) и привлечение к ответственности жены умершего, которая, как указано в статье, фактически завладела всем имуществом, оставшимся после смерти Вячеслава Степановича. К сожалению, действующее законодательство не позволяет банку сделать это иным образом.

Безусловно, мы понимаем, что в сравнении с трагедией, которой для матери является смерть сына, вопросы возврата кредита не являются первостепенными. Однако, поскольку кредитные отношения подробно регламентированы законодательством, банк не имеет возможности принимать решения, основываясь на моральной точке зрения в конкретной ситуации.

Обозначенная в статье ситуация с точки зрения Закона не является исключительной, затрагиваемые отношения регулируются нормами гражданского, наследственного права. С моральной точки зрения сотрудниками банка предпринимались попытки добровольного урегулирования вопроса.

В заключение еще раз хотим подчеркнуть, что ОАО "Приорбанк" не ставило целью вернуть кредит за счет пенсионерки и не собирается делать это в будущем, в том числе после вступления в силу решения суда, а действовало в установленном законодательством порядке.

**С.А.КОСТЮЧЕНКО,**
**председатель правления**
**"Приорбанка".**

ЛІЧБА ДНЯ

## 2039

Менавіта столькі спраў аб эканамічнай неплацежаздольнасці (банкруцтве) знаходзілася на 1 лістапада ў судаводстве беларускіх эканамічных судоў. З іх 98% спраў (2000) — у дачыненні да арганізацый прыватнай формы ўласнасці, паведамляе Вярхоўны суд Беларусі.

Нярэдка прадпрыемствы-банкруты маюць вялікія запазычанасці па зарплаце перад былымі работнікамі, якія не могуць вярнуць грошы нават па рашэнні судоў.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 ЛІСТАПАДА 2014 г.

ДЫСКУСІЯ

# Чаму я не згодны са спадаром Трусавым...

Нядаўна абнародавана жахлівая статыстыка: у нашай краіне па-беларуску навучаецца толькі кожны сёмы школьнік і ўсяго адзін з 670 студэнтаў. Вучняў, якія не разлучыліся з роднай мовай, засталося толькі 15%, а гэта не больш за 142 тысячы. У сталіцы паказчык яшчэ ніжэйшы — усяго 2%.

Тут ужо, як кажуць, не да смеху. Фактычна нацыянальная мова апынулася на мяжы поўнага знікнення. Прытым да падобнага гібельнага стану мы рухаліся сямімільнымі крокамі: за апошнія дзесяць гадоў доля беларускамоўных вучняў скарацілася з 25% да 15%.

Здавалася, што пры такой ашаламляльнай статыстыцы зварухнуцца-загудзяць творчыя саюзы, усе тыя, каму не абыякавы лёс роднай мовы. Заб'юць у званы дзеячы мастацтва і культуры, настаўнікі, сябры ГА "Таварыства беларускай мовы". Пісьмы — абуральныя і пратэстныя — накіруюцца ў Адміністрацыю прэзідэнта, ва ўрад краіны і дэпутатам, паляцяць у міністэрствы адукацыі, культуры, інфармацыі, выканаўчыя камітэты Мінска, абласных і раённых цэнтраў... Шырокаму грамадству будзе прапанавана неадкладна сабрацца на саміт дзеля адказу на пытанне: што рабіць далей? Беларуская ж мова апынулася на краі небыцця, яшчэ штуршок — і яна назаўсёды знікне з прастораў роднай Бацькаўшчыны.

Але вакол — поўныя цішыня і спакой. Нібыта ніякай праблемы не існуе і голас падымаць не варта.

Засмуціў і артыкул "Беларуская мова: найвялікшыя страты ў сістэме адукацыі" (TUT.BY, 21.02.2014 г.). Пасля яго ствараецца ўражанне, быццам у нас з роднай мовай усё проста цудоўна. Паўсюль яна набірае моцы, квітнее і аж гудзіць на абшарах Беларусі.

Прызнаючы, што колькасць беларускамоўных вучняў скарацілася з 19% да 15%, артыкул выдае "ўратавальны" рэцэпт. Аказваецца, трэба проста заклікаць грамадзян "менш лямантаваць, а больш сваіх дзяцей аддаваць у беларускамоўныя школы і садкі", — заяўляе старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы" Алег Трусаў. А дзе ж яны, тыя садкі і школы?

Цытую далей: "І асабліва мяне здзіўляюць так званыя дэмакраты рускамоўныя. Часам яны большыя ворагі нашай мовы і культуры, чым улады".

Вось гэта перл! Гэты пасыл, мяркую, у некаторых можа стацца крылатай фразай на языку, але ж не кожнаму зразумела, па якой прычыне яна нарадзілася. Я думаю, што А.Трусаў прыгадвае сітуацыю з магілёўскай дзяўчынкай Ялінкай Салаўёвай, якая адна-адзіная ў абласным горадзе адважылася пайсці ў беларускамоўны клас. Дык тады ў час палемікі вакол учынку першакласніцы дзеяч адной партыі (дакладна не помню) спакойна давёў: маўляў, ён сваіх дзяцей не аддае на беларускамоўнае навучанне таму, што яны пасля не змогуць вучыцца ў ВНУ на роднай мове...

Вось і прыехалі! Дакладней, апынуліся ў замкнёным коле. Дык як яго разарваць? Што думаюць у партыі наконт вострай сітуацыі? Яна даволі неадназначная. Але вернемся да яе крыху пазней.

Зараз жа зноў пра артыкул на TUT.BY. Фактычна ён абыходзіць бокам вострыя пытанні існавання беларускай мовы і закалыхвае чытача: маўляў, не турбуйцеся, шаноўныя, родная мова ў апошнія гады шырыцца і набірае тэмпы! Прыклады? Ды калі ласка.

Беларуская мова, дакладвае нам спадар Трусаў, пераходзіць у бізнес і рэкламу, і такое робіцца модным трэндам. (Назавіце мне яе працэнт у тым бізнесе і рэкламе.) У гарадах з'явіліся прыгожыя беларускамоўныя білборды. (Ах, як тыя ну проста запрудзілі нашы вуліцы!) Новы мітрапаліт Беларусі Павел паабяцаў вывучыць беларускую мову. (Мяне цікавяць не моўныя здольнасці паважанага мітрапаліта, а ў цэлым адносіны праваслаўнай царквы да мовы тытульнай нацыі.)

Зараз у двухмільённым Мінску працуюць ажно дзве (!) пляцоўкі для вывучэння нашай мовы, прыходзяць 230—250 чалавек. (Масы навыперадкі рвануліся туды, і таму няма падстаў для трывогі, бо хутка сталіца ператворыцца ў спрэс беларускамоўны горад!)

Во дзе палёт фантазіі пра шчаслівыя перспектывы роднага слова!

Для большай переканаўчасці быў знойдзены Джым Джынгі — прафесар-славіст з Лондана, які цытуецца: "Лінгвісты гаварылі вельмі часта, што вось-вось беларуская мова знікне. Але яна не знікла. Так што, я думаю, зараз ёсць шанец..."

Што тут скажаш?.. Акрамя таго, што, як у той песні Высоцкага, "яму відней", бо прафесар жыве ў Лондане, а я ўсяго толькі ў Мінску, і ён лепш за мяне бачыць, што адбываецца ў Беларусі. А я зусім нейкі сляпы...

Няўжо мы такія наіўныя і не разумеем, што для адраджэння мовы гэтага абсалютна недастаткова? Адбываецца нейкая бясплённая гульня пад цудоўнай назвай "Адродзім беларускую мову!". Ачаговыя ўсплёскі дробных кампаній сітуацыю зусім не ратуюць.

Надта цяжка слухаць падобныя суцяшальныя развагі, бо ў мяне маюцца красамоўныя лічбы і ўжо названы дадзеныя Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі: наконт таго, што за 10 гадоў доля беларускамоўных вучняў скарацілася аж на 10% і склала ўсяго 15%, прытым па Мінску гэты паказчык яшчэ намнога ніжэйшы — усяго 2%...

Лічбы гавораць самі за сябе.

Дык, можа, паслаць суровы запыт статыстыкам, заявіць, што яны ў сваіх лічбах нешта нахамуталі, і неадкладна прымусіць іх сесці за свае камп'ютары ды пералічыць?

Падобныя развагі "адраджэнцаў" скіраваны на тое, каб супакоіць не надта шматлікіх беларускамоўных беларусаў, зрэтушаваць праблему і спусціць яе на тармазах. Маўляў, у нас не існуе такой праблемы і не прадбачыцца. На каго скіравана такое жаданне? Нармальныя дарослыя людзі не павераць. Можа, на тыя 11% дашкольнікаў (а гэта 45 тысяч чалавек на амаль дзесяцімільённую краіну), каб хоць тыя групкамі не паўцякалі з беларускамоўных садкоў? Кожны вечар перад сном матулі будуць люляць іх звесткамі пра "стабільнасць і развіццё роднай мовы", лагодзячы, нібы казкай пра белага бычка, і яны пачнуць засынаць спакойна, з усмешкай на мілых тварыках. Каб дзеткі ганарыліся, што такіх — цэлая армія, аматарамі беларускай мовы перапоўнена родная зямля...

Дык чаму пры такім заняпадзе роднай мовы ў нас цішыня, асабліва ў ТБМ? Баюся, што адарваліся ад жыццёвых рэалій. Ці не адважыліся казаць аб тым, што пячэ і баліць?

Вось чаму я не згодны са старшынёй ГА "Таварыства беларускай мовы" Алегам Трусавым. Без сумнення, у змрочныя для нашай мовы часы можна звяртацца і да нешматлюдных вузкамаштабных акцый (яны таксама патрэбны!). Але не варта такое падносіць вялікім дасягненнем. Крыўдна, што, маючы на мэце высакародную справу — выратаванне сваёй мовы ад поўнага заняпаду, мы займаемся не лячэннем, а анестэзіяй, выкарыстоўваючы пры гэтым не натуральныя тануючыя сродкі, а нейкія сінтэтычныя стымулятары.

І гэта, на вялікі жаль, не першы раз, калі пазіцыя ТБМ і яго кіраўніка выклікае, мякка кажучы, здзіўленне. Не так даўно ў СМІ трапіў суровы цыркуляр аднаго высокапастаўленага кіраўніка: той звяртаў увагу на быццам бы рэзкае пашырэнне ўжытку беларускай мовы (дзе толькі знайшоў яго?) і заклікаў не зацікаць у Беларусі рускую. Можна было чакаць, што ТБМ падкажа засмучанаму чыноўніку шлях ісціны канкрэтнай статыстыкай і прымусіць задумацца. Але як адрэагавала Таварыства на такі неабгрунтаваны выпад? Аніяк. Поўная цішыня.

Трэба прызнаць, што сёння мы, на бяду, ужо не маем ранейшага Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, бо яно, лічу, неўпрыкмет завяла і апусціла крылы. А там жа некалі з гонарам неслі сцяг рашучых адраджэнцаў і нястрымных абаронцаў роднай мовы выдатныя змагары за роднае слова. Мо таму і не бачна ні сур'ёзных захадаў, ні імпэту знайсці выхад з цяжкай сітуацыі, што склалася ў краіне. Як мяне пераканаў артыкул у інтэрнэце, чутны толькі агульныя правільныя словы і настойлівыя парады "менш лямантаваць" і не ўзнімаць гвалт.

Можна шырока разгарнуць буйнамаштабную акцыю па зборы подпісаў грамадзян Беларусі за неадкладнае адкрыццё нацыянальнага ўніверсітэта, якую доўгія гады ніхто не ў сілах і распачаць. Выходзіць, лепей даслаць пісьмо-квіток літоўскім чыгуначнікам з просьбай чытаць абвесткі ў цягніках на беларускай мове, а не толькі на рускай і англійскай.

...Шмат спадзяванняў у друку выказвалася пасля сустрэчы А.Трусава са старшынёй Белдзяржтэлерадыёкампаніі Г.Давыдзькам: маўляў, нарэшце мы часцей будзем чуць па радыё і БТ сваю родную мову. А ў выніку БТ-3 ("Культура") на беларускую мову фактычна так і не пераведзена, на ўсіх каналах як гудзела амаль спрэс руская мова, так і цяпер гудзіць. Чакалася, што пасля такой сітуацыі адбудзецца новы візіт кіраўніка ТБМ да старшыні Белдзяржтэлерадыёкампаніі, з тым каб давесці намечанае да канца. Але ж не выйшла. А.Трусаў палічыў, што выканаў сваю місію, шырока апавядаў пра гэта ў прэсе, Г.Давыдзька застаўся на ранейшай непахіснай пазіцыі. Проста пагаварылі і мірна разышліся...

Падобна, некаторыя нашы беларускамоўныя руплўцы аж млеюць ад радасці і шчасця за вынікі сваёй дзейнасці, закалыхваюць сябе і акружэнне быццам бы ашаламляльнымі поспехамі. Але зірнеш навокал — робіцца жахліва за становішча, у якім апынулася родная мова.

З актыўнага і дзейснага абаронцы нашай (дзяржаўнай!) мовы, які абавязаны больш вынікова дабівацца кардынальных перамен у адносінах да яе, настойліва шукаць шляхі ейнага пашырэння ў дзяржструктурах і грамадстве, Таварыства, на мой погляд, неўпрыкмет ператварылася ў нейкую беззаблічную суполку. Падобна, асноўнай ягонай функцыяй сталі збор і распаўсюджванне статыстыкі пра становішча мовы карэннага этнасу на тэрыторыі краіны.

Пры сённяшняй сітуацыі ТБМ не б'е у набат, не аб'яўляе трывогу на ўсіх абшарах роднай зямлі. А тут жа трэба данесці да людзей проста, даходліва і праўдзіва, чым пагражае нам, беларусам, канчатковае ўдушэнне нашай мовы. І каб гэты голас, поўны болю і трывогі, быў пачуты ва ўсіх гарадах і пасёлках Беларусі, вёсачках і на хутарах. Трэба без боязі стукаць у дзверы вышэйшых інстанцый, каб пачулі нас у заканадаўчых і выканаўчых органах улады, узяліся за тэрміновае абмеркаванне праблемы №1 у духоўным, культурным, нацыянальным жыцці краіны, прынялі неадкладныя рашэнні. Не веру, што стопрацэнтная маса чыноўнікаў міністэрстваў і ведамстваў зусім скамянела і апынулася ў стане глыбокай комы, не бачыць, да чаго даведзена родная мова.

Ды з боку Таварыства не чуваць прынцыповых прапаноў, не арганізуецца сапраўды масавых мерапрыемстваў, якія выклікалі б шырокі розгалас у грамадстве.

Нам жа замест гэтага даводзіцца слухаць інфармацыю, што моўнае становішча не такое ўжо і страшнае, а перспектывы наогул вясёлкавыя. Адным словам, грамадзяне, баю-бай!

**Вячаслаў ЛАПЦІК, беларус.**
*Мінск.*

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО СПАЖЫЎЦОЎ

*На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны спажыўцоў" **Васіль ВАЛАСЮК**.*



## Не спадабалася машынка для стрыжкі валасоў

*Набыў машынку для стрыжкі валасоў, але не спадабалася, як яна працуе. Ці магу вярнуць яе назад на працягу 14 дзён?*

**Віталь ЛАНЕЎСКІ, г.Мазыр.**

— Так, гэта ваша поўнае права.

## Лепш грошы, чым рамонт

*Набылі пральную машыну, але, на жаль, праз 5 месяцаў яна зламалася. Магазін прапаноўвае рамонт, а мы хочам вярнуць грошы. Як гэта правільна зрабіць?*

**Сям'я КАЖУРА, Вілейскі раён.**

— Заявіце пісьмовую прэтэнзію аб адмове ад рамонту.

## Ноўтбук два разы быў у гарантыйным рамонце

*Калі ноўтбук быў два разы ў гарантыйным рамонце (няспраўнасць была адна і тая ж), ці можна яго абмяняць на ноўтбук іншай мадэлі таго ж кошту ў тым жа магазіне?*

**Аляксей КАЛУГІН, г.Салігорск.**

— Пры наяўнасці рамонту, калі ў працэсе работы выяўляюцца адны і тыя ж дэфекты, — гэта істотны недахоп. А значыцца, тавар можна замяніць на іншы.

## Экспертыза зацягнулася

*Аддалі фотаапарат на экспертызу. Нам сказалі чакаць 40 дзён, каб даведацца, чаму той зламаўся. Прайшло 2 месяцы, а нам ніхто не тэлефануе. Ці можам мы патрабаваць вяртання грошай за апарат ці яго абмен?*

**Андрэй МАНДРЫК, Валожынскі раён.**

— Калі вы аплацілі экспертызу, то ўсё ж такі дачакайцеся заключэння. Пасля таго як яго атрымаеце, можаце абмяняць фотаапарат ці атрымаць грошы.

## Больш не давяраю магазіну

*Я набыла дзіцячую каляску, праз 2 дні вярнула яе ў магазін, бо знайшла дэфект. Прызналі вытворчы брак, прапанавалі абмяняць на такую ж мадэль. Але я ўжо не хачу з імі звязвацца. Ці магу вярнуць свае грошы ў поўным аб'ёме за каляску?*

**Алена КАСЦЮЧОНАК, г.Лепель.**

— Законам прадугледжана права спажыўца памяняць тавар ці забраць назад грошы.

## Набыла боты на коўзкай падэшве

*Набыла на восень боты. Аказалася, што падэшва пластмасавая, ногі слізгаюць па мокрым асфальце. Адзін раз павалілася, крыху падрапала боты. Ці ёсць шанц вярнуць іх як тавар неналежнай якасці?*

**Таццяна, Магілёў.**

— Так, боты можна замяніць. Але ў гэтым выпадку спажыўцу, думаю, лепш забраць грошы.

## Хутка зламаўся гадзіннік

*Ці магу я вярнуць у магазін гадзіннік і забраць грошы? Гарантыя яшчэ паўгода, а ён ужо зламаўся.*

**Арцём ЛІТВІНЧУК, г.Капыль.**

— Афармляйце адмову ад рамонту і забірайце грошы.

## Пасля рамонту знікла зараднае прыстасаванне

*Аддалі ў рамонт планшэт разам з зарадным прыстасаваннем. Пасля рамонту планшэт аддалі, але без зараднага. Сказалі, што, маўляў, яго і не было. Што рабіць?*

**Віталь ПЫЛЬЧАНКА, г.Маладзечна.**

— Заяўляйце прэтэнзію на майстэрню з патрабаваннем вярнуць зараднае прыстасаванне. Уважліва праглядзіце квітанцыю, якую вам далі пры здачы тавара. Звычайна там указваецца, у якой камплектацыі быў прыняты планшэт.

## Не задавальняе якасць бульбы

*Набылі бульбу, але яна нас не задавальняе па якасці. Прадавец не бярэ бульбу назад. Што нам рабіць?*

**Валянціна САГАНОВІЧ, г.Ліда.**

— Бульбу можна вярнуць прадаўцу, калі ў вас захаваўся чэк.

## Фен не адпавядае характарыстыкам, пазначаным у пашпарце

*Набыла фен, але ён не адпавядае характарыстыкам, пазначаным у пашпарце тавара, і хутка награваецца. Ці можна вярнуць ці абмяняць фен?*

**Святлана КАЛІНЧЫК, Віцебск.**

— Так. Калі тавар не адпавядае характарыстыкам, пазначаным у пашпарце, то яго можна замяніць.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## А для нас пакуль сакрэт, хто «шасцёрка», хто «валет»

***Намеснік дырэктара аднаго з заводаў ААТ "Белшына" А.А.Старых прызначаны дырэктарам Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску.***

*Каторы год гульня ідзе,
Дзе рэй вядуць, вядома, ўлады
І перамешваюць людзей,
Пературасоўваюць пасады.
Уладамі за лёсам лёс
На стол шпурляюцца, як карты:
Вось гэты выгаду прынёс,
А гэты дык зусім нявартьі.
Змяніцца можа ў кожны міг
Усё ў жыцці, ў гульні нібыта:
Ты сёння туз — паб'еш усіх,
Калі шасцёрка — будзеш біты.
І не дапетрыш наўздагад,
Як карты лягуць у калодзе:
Такі здараецца расклад,
Што не паверыш.
Смех дый годзе.
Вось чалавек. І не прафан.
Ён на заводзе быў "валетам".
І думкі пра вытворчы план
Даймалі і зімой, і летам.
Усё ён ведаў пра станкі,
Пра інструменты і дэталі.
І плённа з-пад яго рукі
Загады ў масы выляталі.
— Цяпер, — сказалі, — "каралём"
Ты некаторы час пабудзеш.
Тэатр, так мовіць бы, быллём
Зарос. І ты яго абудзіш.
Хаця тэатр для "караля"
І мудрагелістая справа,
Да разбярэцца ў ёй пасля,
Цяпер жа трэ ўпрагацца жвава.
Ён у парадак прывядзе
Не толькі здзелкі і фінансы,
Але й акцёрам дзе-нідзе
У ролях раскладзе пасьянсы.
Ён цвёрда знае напярод,
І для яго няма сакрэту:
Вунь той — тыповы Дон Кіхот,
А гэтай — лепш іграць Джульету.
Даведаецца рэжысёр,
Што любяць людзі на заводзе:
Паставіць трэ сучасны твор,
А класікі цяпер не ў модзе.
Тэатру зможа памагчы!
І пакаленне маладое,
І ўжо ва ўзросце гледачы
Да касы пойдуць чарадою.
А дзе ж яшчэ капец амаль,
Малюнак змрочны і пануры?
Здабыткаў-поспехаў, на жаль,
Нямашака ў літаратуры.
На творчай ніве ўдоўж і ўшыр
Ніякіх зрухаў, гладзь ды ціша,
Чамусь ніхто "Войну и мир",
Як просіць Бацька, не напіша.
Нібы праклён ці цяжкі груз
Па-над пісьменніцкім саюзам.
Патрэбна, мусіць, той саюз
Умацаваць казырным "тузам".
Як толькі стане на чале
Чынок адданы і рахманы,
Дык на пісьменніцкім стале
Адразу ж з'явяцца раманы.
Хоць ён у творчасці — паяц,
Няхай ягоны імідж коўзкі —
Падкажа, дзе зрабіць абзац
І як расставіць кропкі-коскі.
Б'юць лынды й нашы мастакі,
У працы маюць плён убогі.
Чаму ў бурлівы час такі
Прапалі Гоі і Ван Гогі?
Дык трэ з Саўміна "караля"
Паставіць на чале кагалу,
І беларуская зямля
Народзіць новага Шагала.
І кампазітараў гурма
Цяпер лянуецца без меры.
У нас хай Моцарта няма,
Дык хоць бы быў які Сальеры!
І іх з чыноўнікаў "валет"
Няхай адвучыць ад ляноты,
Падкажа, як складаць куплет,
Напіша правільныя ноты.
А можна і наадварот:
Каб весялей крыху было нам —
Паслаць паэта на завод,
Няхай кіруе гегемонам.
Хай узначальвае сялян
Акцёр, мастак ці кампазітар,
І будзе выкананы план,
Не здасць калгас сваіх пазіцый!*

* * *

*Тасуюць нашыя "вярхі"
Сваю пацёртую калоду:
Такі расклад, бадай, ліхі,
А той — прыносіць асалоду.
Кладуцца карты дзень пры дні:
Вось злева — туз,
А дама — справа.
"І хто ж пры гэтакай гульні
У дурнях будзе?" —
Мне цікава...*

НЕЛЬГА ЗАБЫЦЬ...

# Ворагі народа ці ахвяры?

Шаноўныя супрацоўнікі "Народнай Волі"! Дазвольце адказаць на пытанне, якое было зададзена ў газеце ад 31 кастрычніка гэтага года: "Ці патрэбны Беларусі мемарыял ахвярам сталінскага і камуністычнага рэжыму?" Безумоўна, патрэбны! Магу так сцвярджаць, таму што і на маім уласным лёсе адбілася трагедыя нашай краіны таго часу.

Мой бацька, Канстанцін Антонавіч Махнач, 1884 года нараджэння, сялянскі сын з вёскі Нізок Уздзенскага раёна, яшчэ пры царскай уладзе скончыў Мар'інагорскае сельскагаспадарчае вучылішча (зараз акадэмія), якое давала вельмі добрыя веды. Ён быў высокаадукаваным спецыялістам — аграномам. Яго веды былі запатрабаваны не толькі на Радзіме, але і за яе межамі. Яшчэ ў царскі час ён выязджаў у Фінляндыю, Персію (зараз Іран). (Добра помню, што бацька прывёз адтуль персідскі дыван, які нас доўга цешыў.)

Сын Беларусі, ён любіў сваю краіну і беларускі народ, рабіў усё, што мог, дзеля яго дабрабыту.

Але ў жніўні 1938 года, калі ў СССР ужо лютавалі рэпрэсіі, яго арыштавалі. Асудзілі як "ворага народа" на 8 гадоў зняволення без права перапіскі. Мы не ведалі, за што яго арыштавалі і куды саслалі. Чулі нешта пра тое, што бацька на калгасным сходзе сказаў, што нельга ў сялян забіраць усё да апошняга, трэба і ім пакідаць хоць штосьці на пражыццё. Але гэтага было дастаткова, каб стаць "ворагам народа". Даведаліся мы пра яго лёс толькі пасля смерці Сталіна.

А мы — мама і дзве няпоўнагадовыя дачкі — засталіся без карміцеля ды яшчэ і сталі сям'ёй "ворага народа". А што гэта азначала, мы ведалі на прыкладзе іншых сем'яў. На гэтых людзей глядзелі падазрона, цураліся іх. Таму мы нікому не казалі праўду пра бацьку. А калі мы з сястрой сталі дарослымі, то ва ўсіх анкетах хлусілі і пісалі, што бацька памёр. Выжыць у той час нам дапамаглі родныя нашай маці. (Мы жылі з імі ў Мінску пасля арышту бацькі. А яго арыштавалі ў Смаленскай вобласці, дзе ён працаваў у той час.)

Апрача нас, дзвюх сясцёр, былі ў таты яшчэ два дарослыя сыны. Малодшы з іх, Яўген, быў шчыры патрыёт Радзімы, служыў у арміі і загінуў у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. Старэйшы сын, Анатоль Канстанцінавіч Махнач, у той час жыў і працаваў у Маскве. Калі ён даведаўся, што бацьку арыштавалі і асудзілі як "ворага народа", ён неяк пастараўся змяніць у прозвішчы "Махнач" літару "а" на літару "о" і стаў "Мохнач" (магчыма, таму яму і ўдалося пазбегнуць рэпрэсій). Дарэчы, мы з сястрой, калі пазней атрымлівалі пашпарт, таксама запісаліся па прозвішчы "Мохнач".

У часы "хрушчоўскай адлігі" ў выніку пошукаў бацькі і брата мы даведаліся, што бацька памёр у ГУЛАГу ў Хабараўскім краі ў 1942 годзе. Значна пазней, у 1990 годзе, брат атрымаў даведку з Вярхоўнага суда РСФСР аб тым, што бацька рэабілітаваны (ксеракопію яе прыкладаю).

Пасля арышту бацькі быў арыштаваны яго малодшы брат Аляксандр Антонавіч Махнач, таксама аграном, і асуджаны быў таксама як "вораг народа". Але за яго выратаванне змагалася сястра. Яна — жанчына адукаваная, настаўніца — звярталася ў розныя інстанцыі і нават да пісьменнікаў. Мяркуем, што ёй дапамог Кандрат Крапіва, жонка якога Алена Махнач была стрыечнай сястрой братоў Махначоў.

Наступным быў арыштаваны швагер (муж сястры бацькі) — Іван Іванавіч Пятроўскі, таксама аграном. Ён быў асуджаны да расстрэлу з той жа фармулёўкай "вораг народа". І яго расстралялі. А сына яго, Барыса Іванавіча Пятроўскага (здаецца, ён быў інжынерам), арыштавалі як сына "ворага народа" і саслалі недзе ў ГУЛАГ на Поўнач. Там ён адбываў свой тэрмін (здаецца, не вельмі вялікі), адмарозіў ногі і потым усё жыццё пакутаваў ад гэтай хваробы і памёр яшчэ зусім не стары.

А дачку "ворага народа" Івана Пятроўскага — Тамару Іванаўну Пятроўскую, якая ў той час вучылася ў Мінскім інстытуце народнай гаспадаркі на апошнім курсе, — аб'явілі дачкой "ворага народа" і выключылі з інстытута. Яна не атрымала дыплом.

Вось колькі "ворагаў народа" было толькі ў нашай радні, а можа, яшчэ я не ўсіх узгадала. Такі быў час у нашай краіне СССР, дзе казалі, што дзеці не адказваюць за бацькоў... Ні ў чым не вінаватыя людзі вымушаны былі пакутаваць, баяцца, хавацца і хлусіць, каб уратавацца ад рэпрэсіўнага жаху.

**Тамара Канстанцінаўна ЛАЗАРУК (дачка К.А.Махнача).**
*Мінск.*

ГОСТИНАЯ «НАРОДНОЙ ВОЛИ»

# Личные истории от Юлии Чернявской

***Из чего родилась легенда о сыне Владимира Короткевича? Как история ограбления в лифте превратилась в сюжет для пьесы? Почему один из самых известных в медиабизнесе людей Юрий Зиссер не уехал в эмиграцию в США? Об этом в эксклюзивном интервью рассказывает драматург, прозаик, культуролог и супруга известного бизнесмена Юлия ЧЕРНЯВСКАЯ.***



**— Знаю, что ваше детство прошло в легендарном доме на Карла Маркса, 36, который расположен напротив Купаловского театра…**

— Этот дом — самое безопасное и гармоничное место, которое я знала в своей жизни. В нем было три подъезда. Наш считался практически полностью "литературным", а в двух соседних жили не только писатели, но и люди самых разных профессий. Например, женщина-врач, которая дома бесплатно принимала и лечила своих соседей. В нашем доме жили Владимир Короткевич, Вячеслав Адамчик, Иван Науменко, Янка Брыль, Нил Гилевич, Янка Мавр, Янка Скрыган, семьи Глебки и Климковича, мой дедушка Василь Витка с семьей. Жили Шамякины, но переехали, когда я была еще совсем маленькой.

Наверное, мы, дети, единственные в Минске от рождения были билингвами. Писатели разговаривали по-белорусски, а вот практически все их жены — по-русски. По-белорусски — только Нина Ивановна Гилевич. А тетя Ядя Науменко — на живой, очень сочной, яркой трасянке. Вообще, в детстве мы всех звали "дядя" и "тетя" и так же воспринимали.

Наверное, лет до девяти я не понимала, что общаюсь с разными людьми на разных языках. Правда, когда подходила к телефону и слышала "Добра здароўя!" (так говорил мой дедушка и его друзья, теперь, кажется, так уже ни к кому не обращаются), отвечала так, будто слышала: "Здравствуйте!" А когда переехала с родителями в Серебрянку (к бабушке и дедушке попадала только на выходных и каникулах), там уже разговаривали на трасянке и русском.

Около дома была единственная скамейка, на которой иногда сидели писательские жены: обсуждали все — от воспитания до политики. Создавалось впечатление, что они слегка витают где-то там, в своих писательских мыслях. А вот где собирались все жильцы дома, так это на субботниках. Само собой разумелось, что надо побелить деревья, подрезать ветки, посадить у забора мальвы, разбить клумбу и обложить ее кирпичом.

**— Одним из самых известных жильцов дома являлся Владимир Короткевич.**

— Соседи у нас были замечательные, но, если говорить о широте души, ею, на моей памяти, больше всего отличались жена Науменко и Владимир Семенович Короткевич. Он был необыкновенно добрый человек. Помню, как останавливал меня и расспрашивал, понравилась ли мне экранизация "Дикой охоты короля Стаха" (самому ему не нравилась) или "Черный замок Ольшанский", только что напечатанный в "Маладосці". Кто я была тогда? Девчонка, школьница. Но ему было свойственно уважение к читателю, не массовому, а конкретному. Сейчас это редкое явление.

Он был очень преданный сын. Наверное, некоторые знают историю об обычных стульях, канцелярских, с дермантиновыми сиденьями. Они стояли в каждом пролете, чтобы его мама могла отдохнуть, пока поднималась на пятый этаж. Потом кто-то украл стулья, тогда Короткевич поставил новые и прикрутил их проволокой. Они стояли там долго: и после смерти его мамы, и после его собственной смерти. Чувствовалось, что ему немного тесно — нет, не в доме, а в этом мире, что ему надо было чего-то большее, какой-то более крупный контекст: не то, что тогда называлось "литературой народов СССР", национальной по форме, социалистической по содержанию. Может быть, конечно, это ощущение было от прочитанных книг Короткевича... А соседки очень жалели их с женой из-за бездетности. Хотя я слышала, что у него есть сын.

**— Мне всегда казалось, что это легенда!**

— Дедушка рассказывал: как-то зашел Короткевич, попросил рюмочку. Он не был у нас частым гостем, дед вообще был замкнутым человеком, но, видимо, в тот день Короткевичу было очень уж тоскливо. Дома у нас практически не пили, но у деда в шкафу всегда стояли херес и хороший коньяк. Владимир Семенович выпил и сказал: "Знаете, Тимофей Васильевич, а ведь у меня на этой же улице сын живет..." Я верю в это: деду всегда были отвратительны сплетни, сказал он об этом только мне — и уже много позже смерти Владимира Семеновича.

**— В своих повестях и романах Короткевич опирался на исторические факты, но всегда много фантазировал. Любопытно, а в ваших произведениях в какой степени правда преобладает над вымыслом?**

— Они переплетены "пятьдесят на пятьдесят". Но есть и элементы чистой правды. У меня, например, есть пьеса "Буковки", которая идет в Могилевском облдрамтеатре под названием "Одноклассники". Главный герой, аутист Митя, списан с моего брата по отцу. Тима моложе меня на 20 лет, и тяготы аутиста и его семьи я знаю не понаслышке. Общество, то есть конкретные люди, их группы, еще что-то пытаются сделать для аутистов, государство — практически ничего, как будто их и нет. Здесь исток трагедии: единственные, кто заботится об аутистах, — их родители. Когда они уходят из жизни, аутистов (часто уже взрослых) отправляют в интернат. Для них, людей привычки, распорядка, абсолютно незыблемого мира, это полный слом жизни. Причем интернаты эти чаще даже не в Минске, а в другом городе, потому что все столичные переполнены. Но они и там остаются "белыми воронами": чтобы контактировать с аутистами, надо учиться этому всю жизнь, а у сотрудников интернатов нет на это ни времени, ни, наверное, нужных знаний. Знаний об аутизме вообще мало.

**— А Тима может работать?**

— Нет, у нас это невозможно. На Западе аутисты могут работать, быть конвейерными рабочими, программистами, прекрасными диспетчерами. Есть аутисты-профессора, например, знаменитая Темпл Грандин. Но там система социальной адаптации начинается с детства, а потом продолжается всю жизнь. Сын моих друзей, которые живут в Америке, — аутист. Но он имеет воинское офицерское звание и служит на флагмане Тихоокеанского флота. А Тиме не дали даже доучиться в школе. В Беларуси совсем недавно открыли единственный (!) класс для таких детей. Однажды я спросила мачеху, почему она не отпускает сына одного передвигаться по Минску: ведь он прекрасно ориентируется в городе. "А ты представляешь, чего он наслушается от наших "добрых" людей?" — спросила она.

**— В "Лифте", другой вашей пьесе, герой нападает в лифте на женщину, требуя у нее денег.**

— В "Лифте" коллизия совершенно истинная. Придумана только общая фабула: героиню оставляет муж, уходит к ее же студентке. Этого в моей жизни, к счастью, не было. Я просто насмотрелась на современное поветрие, когда мужчины оставляют "старых" жен и уходят к молоденьким. Раньше это было свойственно лишь богеме, остальные как-то "держались", и если уж разводились, то вторые жены были, как правило, ровесницами. Теперь в силу множества причин уходы к юным девушкам стали повсеместными. А вот история в лифте — совершенно не вымышленная. Мой реальный диалог с 18-летним Пашей из Осиповичей в первой картине пьесы воспроизведен практически дословно. Мы вошли в лифт, доехали до третьего этажа. Он нажал кнопку, остановил лифт, вытащил нож, прижал его к моему боку и сказал: "Ограбление". Я знала, что мальчик Паша не хочет меня убивать. И при этом остро чувствовала: при определенном повороте событий — может. Например, если мне по мобильнику позвонит дочь или кто-то будет стучать по двери лифта. Тогда он меня пырнет просто из страха.

Мне было его даже жаль. Я смотрела на него и думала: дурачок ты, дурачок. Потом выяснилось: Паша приезжал к нашему дому неделю подряд и за это время ограбил пять человек. Неудивительно, что его быстро поймали. А в пьесе мне хотелось реконструировать как-то его жизнь, ход его мыслей, понять, отчего он оказался в этом лифте, зачем взял в руки нож. Кстати, когда я отдала ему деньги, то сказала: "А теперь вези меня на девятый этаж, с сумками я пешком подниматься не буду". И он дисциплинированно повез. Удивительно, но в дурацких ситуациях я становлюсь очень смелой. Потом приходит страх, конечно. Но это потом.

**— Ходит легенда, что однажды вы помогли Валерии Новодворской…**

— "Помогла" — это сильно сказано. Попыталась — да, на чисто эмоциональном порыве. В Москве, то ли в 1989-м, то ли в 1990 году. Тогда советская столица ввела карточки только для москвичей, перестав продавать товары провинции. А провинция ей мгновенно отомстила: перестала поставлять в Москву продукты. Потому в Москве было холодно, голодно и невесело. Помню палатки около Кремля, люди жили в них, надеясь добиться от государства справедливости... Запомнила: в одной из них дружно жили армянин с азербайджанцем и чей-то из них маленький ребенок. И все это в холодном ноябре. Словом, тяжелое было время. Вместе с другом, журналистом Вадимом Казначеевым, мы шли по холодному вымершему городу около памятника Юрию Долгорукому. Вдруг видим: в милицейскую "газель" запихивают несколько женщин и пару подростков. Рядом стоит полная женщина, которую почему-то не трогают. Это была Новодворская, которую мы сначала не узнали. В машине начинает урчать мотор — и тут она бросается к этой "газели", ложится на бампер грудью, не давая ей уехать. Одна! Ну, мы тоже кинулись на эту "газель", потому что на такое нельзя просто смотреть, как одна женщина пытается остановить людей с дубинками. И получили теми же дубинками по почкам. В общем, легко отделались: нас не "взяли". А предыстория оказалась такова: утром разогнали митинг Демократического союза, сперва забрали всех мужчин, к вечеру пришел черед женщин и подростков. А саму Новодворскую приказали не брать. Но это ж Новодворская! В тот же вечер она своего добилась: пошла на Красную площадь и прилюдно разорвала портрет Ленина — и вот тут ее забрали. Такие люди всегда вызывали у меня смешанные чувства: ужас перед безумным, чисто революционным, левоэсеровским накалом и уважение перед искренностью и верностью своим идеалам.

**— В советские времена вы были диссиденткой?**

— Практически все мои знакомые были диссидентами — в прямом смысле: инакомыслящими. Но борцов среди них было мало. Я не участвовала в акциях, не подписывала обращений, не возила самиздат из-за границы, не печатала прокламации. Мы были наивные: казалось, как только люди узнают правду, например, о репрессиях, как только мы получим доступ к запрещенной литературе — мы автоматически станем сторонниками демократических ценностей. Я не ниспровергала режим. Просто он вызывал у меня стойкую антипатию: слишком много вранья нам "вкручивали".

**— А что повлияло на такое отношение?**

— Да многое. Открытые партсобрания. Запрет на писателей. Замалчивание репрессий. Дисциплинарный характер культуры и жизни как таковой. Бесконечные осанны партии. Или хваленый интернационализм. Например, я до 18 лет не знала, что в Минске было гетто и есть памятник его жертвам. Там, где сейчас находится мемориал "Яма", стоял (и стоит до сих пор) маленький обелиск погибшим евреям. Узнала я о нем от друзей, кстати, не имеющих к евреям никакого отношения. В 1980-м или 1981 году пошла туда на 9 Мая. Там собралось много людей, не только евреев — белорусов тоже. Многие плакали, у некоторых там погибли семьи, некоторые сами пережили гетто. А по периметру "Ямы" стояли милиционеры. Как только раввин стал читать молитву и старики начали молиться, раскачиваясь, милиционеры включили громкоговорители и начали передавать бравурные песни 1970-х годов. Я подумала, что это какая-то ошибка, и пошла объясняться к милиционерам. Меня гнали от одного к другому, дошла наконец до главного, который начал материться, оскорблять этих несчастных стариков по этническому признаку, хватать меня за руку, тащить куда-то...

Неудивительно, что в нашей среде читали запретную литературу, слушали Галича. Некоторые, особо бдительные, боялись "прослушки" и ставили магнитофоны в ванной на табуретке. Представьте картинку: десяток людей сидит на полу возле открытой двери в "совмещенный санузел" и торжественно слушает... Записи всегда были плохого качества, голоса практически не было слышно. Мой первый муж (я вышла замуж рано, в 19 лет) сидел рядом с бобинным магнитофоном и фактически "переводил", о чем пел Галич.

**— А почему, простите за нескромность, вы расстались с первым мужем?**

— Так вышло. Мы и сейчас в теплых отношениях, нам никогда ничего не приходилось делить. Но после четырех лет совместной жизни стало понятно, что мы очень разные. Настолько, что уже забыли, как вместе проводить время. Он пропадал в альпинистских лагерях, я — в среде поэтов и бардов.

**— Говорят, что именно благодаря бардовской песне вы познакомились с Юрием Зиссером.**

— Да, на тот момент я писала песни и выступала с ними. И вот приехала во Львов к друзьям на Первое мая, кстати, это было сразу после Чернобыля, в 1986 году. Тогда я была солидной замужней женщиной, хотя и приближающейся к разводу. Мне было аж 24 года. Поехали в лес компанией — пообщаться, попеть. Я в чужих тренировочных штанах, в чужой майке, совсем не романтический вид. Первая адресованная мне фраза моего будущего мужа была: "Где ты научилась так петь?" Да никак я особо не пела, наверно, разве что искренность его подкупила. Кстати, Юра там оказался случайно, заодно с другом: он был равнодушен к авторской песне, зато знал и любил джаз. И меня приучил.

А через неделю он приехал и нашел меня в Минске, не зная ни адреса, ни телефона (а ведь и интернета тогда не было): включил математическую логику, вычислив место моей работы, о которой я смутно обмолвилась во Львове. Через полтора месяца я ушла от мужа, еще через два месяца переехала во Львов. Спустя год вернулись в Минск вдвоем, вернее, уже почти втроем: ждали дочку.

**— Вы в браке двадцать девятый год. Это большой срок…**

— Да, мы давно вместе — благодаря одному замечательному качеству моего мужа. Он позволяет мне быть собой. И я позволяю ему быть собой. Делать то, что он считает нужным, вне зависимости от того, согласна я с этим или нет. И никогда не требую "отчетов", как делают некоторые женщины. Придет домой и сам все расскажет.

**— А сейчас не сможет рассказать! Я закончу интервью, и наши читатели ничего не узнают…**

— Сейчас у него сессия. В 53 года он поступил в консерваторию. Специализация "Интерпретация старинной музыки" (орган). Эта была давняя мечта: в 40 лет он стал самостоятельно учиться играть на фортепиано. Причем не с гамм начал, а с Баха.

**— В сознании читателей Юрий Зиссер прежде всего ассоциируется с порталом TUT.BY и многочисленными проектами в IT-сфере.**

— Этот портал начинался с фирмы "Надежные программы". Сперва она находилась у нас дома, в нашей первой собственной квартире в Заводском районе. До того мы довольно долго и во Львове, и в Минске мыкались по съемным квартирам. Юра ездил на заработки в Лангепас, это Ханты-Мансийский автономный округ. Работал там вахтовым методом: три месяца там, потом здесь, потом опять три месяца там. Это тянулось пару лет. Ну, и родители подкинули свои сбережения. Так насобирали на "распашонку", 42 квадратных метра.

**— По тем временам это же роскошь!**

— Да. Квартира стоила около 40 тысяч уже сильно потерявших в цене советских рублей. В этой квартире сперва и разместились "Надежные программы". Сначала в фирме было только три человека — Юра, бухгалтер и программист Дима. Несколько лет, пока не арендовали помещение, программист работал у нас дома. В комнате стояли мой школьный стол и табуретка, на столе компьютер — вот и весь интерьер. На квартиру хватило, на мебель уже нет. Я кормила Диму завтраком, обедом и ужином, а он рассказывал мне о своих бедах и радостях. Даже когда "Надежные программы" отселились и программистов стало больше, они постоянно забегали в гости, и некоторые охотно продолжили традицию исповедей за чаем. Потом фирма разрослась — и посиделки стали реже. Теперь иногда забегают отдельные люди.

**— 1990-е теперь любят называть "лихими". Думаю, восхождение вашей семьи тоже было непростым.**

— Совсем недавно муж опубликовал "Советы банкротам". Они написаны на собственном опыте. Года с 1992-го у нас было относительное благополучие — на фоне наших соседей с улицы Васнецова. В те годы оно понималось так: это когда можешь купить не один, а два килограмма мяса, регулярно покупать фрукты ребенку, можешь в отпуск съездить в Крым или даже Болгарию в дешевый пансионат. У нас было такое благополучие, а в 1996-м оно рухнуло. Это был полный крах. Муж бился как мог, и я — как могла. Работала в двух вузах, в одном на ставку, в другом на полторы, раз в неделю преподавала в школе и писала статьи для журнала "Здоровье и успех", которые приносили мне в месяц столько же, сколько два вуза. А летом торговала косметикой Swiss Formula. Носила ее в сумках по фирмам. И страшно боялась, чтоб мои студенты меня не увидели в роли коробейника.

**— Вы приводите пример того, как действует сильная женщина. Наверное, многие поступили бы иначе…**

— А какой был выход? Время обязало нас быть сильными и взрослыми. Мне вообще кажется: женщина уже рождается взрослой. Мужчины взрослеют позже. А вот что касается интеллектуального развития, то большинство мужчин начинают его раньше, но и раньше останавливаются. Поэтому мы встречаем такое количество интересных — мудрых и глубоких — старых женщин. Мне кажется, чаще, чем среди их ровесников-мужчин. Просто в культуре, науке, политике по известным обстоятельствам они менее заметны, зато куда более заметны в быту. Ну и, конечно, потому, что смерть быстрее выкашивает мужчин. Тому есть не только физиологические, но и психологические причины. Например, установка "мальчики не плачут". Она разрушает человеческую спонтанность, лишает права на яркое выражение чувств, формирует закрытого, закомплексованного человека, который всю жизнь чувствует себя самозванцем. Он должен быть сильным, но ведь он знает, что внутри он — другой. Аналогичный грех воспитания: "Ты должна быть скромная, тихая, послушная, ведь ты же девочка".

**— Хотел бы спросить об ином. Вы позволяете себе каким-то образом влиять на работу портала?**

— Нет. В той лишь степени, что и любая женщина, с которой муж советуется по поводу своей работы. Во мне сидит несколько давнишних принципов — наверно, от мамы и круга ее подруг. Во-первых, женщина не должна садиться мужчине на голову — в том числе и в материальном плане. У меня "малобуржуазные" запросы. Нужен определенный комфорт, по теперешним представлениям небольшой. Счастлива, что не приходится считать копейки. Ведь я считала их большую часть своей жизни и не забыла об этом.

Еще я глубоко убеждена, что женщина не должна становиться известной просто как жена своего мужа. Быть "женой шефа" мне всегда претило. Поэтому я долго и сознательно дистанцировалась от TUT.BY, занимаясь своими делами: книгами, пьесами, статьями, диссертацией, преподаванием. На портале я начала появляться, когда он существовал уже лет семь. Тогда коллеги Юры, из тех, кто бывал у нас дома, сказали: "Мы открываем видеонаправление, а вести передачи некому. Не согласились ли бы вы нам помочь?" Так появилась передача "Без ответов", которую я вела три года, потом другие циклы: "Круги на воде", "Артефакт", "Советская Атлантида". При этом я никогда не прерывала ни преподавание, ни какие-то свои "писания".

**— А зачем вам преподавание в университете? Вы ведь обеспеченный человек…**

— Во-первых, там я чувствую себя социально востребованной. Во-вторых, я люблю студентов. Я довольно редко хожу на светские мероприятия — я их не очень люблю. Лучше прочесть или прослушать интересную лекцию, чем побыть в тусовке.

**— Но ведь у вас есть клуб GRAPHO. Это же литературная тусовка!**

— Не совсем. Там люди не просто "тусят", они заняты общим делом. Вообще, у GRAPHO долгая предыстория — и не только личная, а общекультурная.

В 1960-е годы существовал общий культурный проект, так называемое "шестидесятничество". Люди вышли из квартир и попытались создавать "свою" страну. Из этого ничего не вышло, к 1970-м они перестали верить в этот большой утопический проект. Разошлись по домам и начали заниматься обустройством собственной жизни. И вот тогда возник феномен "кругов". Говоря фигурально, люди жили не в СССР, а в своих компаниях, где можно было жить, дружить и дышать.

Наше время в чем-то похоже на то. В 1990-е люди поняли, что большого социокультурного проекта они создать не могут, их предложения просто не будут услышаны. Поэтому все занялись своим бытом.

Когда я вышла в "Фейсбук" (сперва против желания, меня заставила там зарегистрироваться дочь), оказалось, огромное количество людей тоскуют по литературе, да и в целом — по культуре. И это люди совершенно разных возрастов, полов и профессий. Значит, идея литературного клуба востребована.

**— А вы не боитесь, что в GRAPHO будут править бал графоманы?**

— Совсем бездарных людей в GRAPHO не вижу. Конечно, кто-то может быть менее талантливым поэтом. Но, может, он талантливый слушатель? Может, он способен горячо обсуждать тексты? Может, он замечательный критик? Как говорил мой друг Ким Хадеев, "графомания спасет мир. Люди будут писать вместо того, чтобы воевать".

**— А вы читали роман Владимира Некляева "Автомат с газировкой с сиропом и без", посвященный Хадееву?**

— Начала, но бросила. Именно поэтому. Не знаю, чем руководствовался уважаемый Владимир Прокофьевич, создавая свой образ Кима. Возможно, рассказами пристрастных людей. Таких во все времена было множество. В интеллектуальном Минске не существовало ни одного человека, который был бы связан с литературой и театром и не бывал у Кима. Круг его общения состоял из людей разных поколений. Например, в первом поколении была моя родная тетя Наташа. Я к "поколениям" не относилась, мы дружили отдельно, на моей "территории", но людей этих знала. И ни от кого и никогда я не слышала, что Хадеев кого-то подставлял или на кого-то доносил. На него доносили — это было, и я даже знаю несколько имен доносчиков. Кстати, об одном Ким говорил: "Ну, его просто поставили в такие условия, он не мог не настучать" — и не порвал общения с этим человеком. Вероятно, Некляев просто излишне доверился чьим-то воспоминаниям. Больше мне это объяснить нечем.

**— Но Хадеев мог испортить жизнь?**

— Мог. Как и каждый из нас. Больше — лишь потому, что личностью был огромной и влияние оказывал большее, чем обычный человек. Это было не злоумышленно, а вследствие некоторых его установок. Например, он ошибочно считал, что каждый человек потенциально обладает его силой и умом. Потому раздавал завышенные авансы. Он мог сказать: "Бросай все. Я научу тебя писать, станешь большим писателем". И человек бросал все, хотя учился себе, например, в политехническом институте — и прожил бы нормальную жизнь вне писательства. В молодости такие посулы могут опьянить, потому я рада, что подружилась с Кимом, будучи уже взрослым человеком.

**— И последний вопрос. В одном из интервью вы рассказывали, как собирали деньги на новую квартиру. Но муж взял и вложил их в создание портала TUT.BY. Вы не осуждали его за этот поступок и риск?**

— Во-первых, их заработал он, а не я. Значит, мог их потратить на то, на что считал нужным. Во-вторых... Когда мы познакомились, его семья в полном составе собирались уезжать в США. И тут появилась я, которая категорически не хотела никуда ехать. В этом смысле я очень "тутэйшая". Тогда Юра отказался уезжать, и его родители тоже остались во Львове. Я много раз вспоминала об этом, когда спустя много лет его мама тяжело заболела. Вероятно, в Америке она прожила бы больше, и качество жизни у нее в те годы было бы другое. Никакая квартира (которую мы через семь лет все же купили) не сравнится с этой жертвой. Так что я обязана ему главным.

**Беседовал Денис МАРТИНОВИЧ.**

НУ І НУ!

## Канфіскавалі машыну

*Жыхар Ваўкавыскага раёна за нелегальны заробак у 12 тыс. рублёў пазбавіўся машыны коштам 54 млн рублёў.*

Але справа ў тым, што "бамбілай" ён падпрацоўваў рэгулярна.

Як паведамілі ў Вярхоўным судзе Беларусі, жыхар вёскі Дубаўцы Ваўкавыскага раёна ажыццяўляў перавозку пасажыраў па маршруце Ваўкавыск—Рось на сваім аўтамабілі. У якасці платы за праезд ён узяў 12.000 рублёў.

На судовым пасяджэнні 55-гадовы грамадзянін поўнасцю прызнаў сваю віну ва ўчыненні адміністрацыйнага правапарушэння, а менавіта: у ажыццяўленні прадпрымальніцкай дзейнасці без дзяржаўнай рэгістрацыі або без дзяржаўнай рэгістрацыі і спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі).

Але беспрацоўны кіроўца ўжо тройчы прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за аналагічнае правапарушэнне, але так і не зарэгістраваўся ў якасці індывідуальнага прадпрымальніка. Таму ў адпаведнасці з пастановай эканамічнага суда Гродзенскай вобласці аб накладанні адміністрацыйнага спагнання грамадзянін чацвёрты раз прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 90 базавых велічынь на суму 13.500.000 рублёў з канфіскацыяй аўтамабіля коштам 54.000.000 рублёў, на якім ажыццяўлялася нелегальная перавозка пасажыраў.

Пастанова аб накладанні адміністрацыйнага спагнання набыла моц і не абскарджвалася.

БАСКЕТБОЛ

## Нарэшце перамога!

Баскетбалісты "Цмокі-Мінск" у першым жа матчы пад кіраўніцтвам новага галоўнага трэнера **Ігара Грышчука** атрымалі першую перамогу ў сёлетнім чэмпіянаце Адзінай лігі ВТБ, абгуляўшы ў нядзелю на выездзе краснаярскі "Енисей". Як вядома, у папярэдніх матчах са старту чэмпіянату Адзінай лігі ВТБ "Цмокі" пацярпелі паразы ва ўсіх шасці сустрэчах. Пасля пятага паражэння яны нават вырашылі адмовіцца ад зарплаты.

Дарэчы, "Цмокі-Мінск" застаюцца ў Краснаярску яшчэ на некалькі дзён. Заўтра, 19 лістапада, мінчане яшчэ раз сустрэнуцца з "Енисеем", які з'яўляецца сапернікам "драконаў" і ў групавым турніры Еўрачэленджа. Пажадаем нашым баскетбалістам яшчэ адной перамогі.

ФОТАФАКТ

## У Гродне — свецкі баль

*У абласным горадзе адрадзілі традыцыю свецкіх баляў XIX стагоддзя, і на першы "Вальсавы праменад" у гродзенскі драмтэатр прыйшлі 50 пар.*



Звычайныя гараджане адпавядалі сапраўды арыстакратычнаму дрэс-коду: дамы былі апрануты ў вечаровыя сукенкі з веерамі і пер'ямі, а кавалеры — у сапраўдныя смокінгі. Адкрыўся баль з тоста адной з першых асоб горада — намесніка старшыні Гродзенскага гарвыканкама **Барыса Фёдарава**.

Суправаджала свецкае мерапрыемства жывая музыка ў выкананні мінскага калектыву музычна-гістарычнага праекта Doux Souvenir. А атмасферу балю гродзенцам дапамагала ствараць сталічная школа старадаўніх танцаў "Залаты двор".

